беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 33 (71)
18 лістапада
1996 г.

выходзіць у панядзелкі



# Кроніка суднага часу

*15-16 лістапада, Менск*

Здаецца, гульцы беларускай палітыкі выйшлі на фінішную прамую. Але ў беларускіх умовах нават фінішная прамая — не прамая. Тактычныя ўлоўкі ды павароты існуюць і на гэтым апошнім этапе палітычна-спартовай дзеі.

Пасьля працяглае барацьбы нэрваў, ня вытрымаўшы, першы зрабіў рывок Лукашэнка. Парлямэнт звыкла сеў прэзыдэнту, што называецца, на пятку. У гэткіх умовах усё вырашае наяўнасьць незадзейнічаных рэзэрваў — у каго яны засталіся. Тым болей, што спаборніцтва тут адной лёгкай атлетыкай не абмяжуецца. Будзе і атлетыка цяжкая, і барацьба, і бокс.

Гэта яскрава засьведчылі дынамічныя падзеі мінулае пятніцы ў Цэнтарвыбаркаме. Прэзыдэнт падпісаў указ пра зьняцьцё з пасады старшыні ЦВК Віктара Ганчара. Ясна, што Канстытуцыя ў якасьці падставы для гэтага ўказу не фігуравала. Таму Ганчар не згадзіўся, і прэзыдэнцкі загад адправіліся выконваць людзі з галоўнай управы дзяржаўнай аховы пад камандай сп. Цесаўца. Таго самага, які кіраваў апэрацыяй паўтары гады таму, калі з залы парлямэнту выкідвалі дэпутатаў фронтаўскай апазыцыі. Так што кадар, можна сказаць, правераны.

Але выконваўся загад надта ўжо кандова і непрафэсійна. Дый пра які прафэсіяналізм можна весьці гаворку, гледзячы на выканаўцаў — прэзыдэнцкіх ахоўнікаў. Хлопцы з стрыжанымі патыліцамі, крыху старэйшыя за кітайскіх хунвэйбінаў, за рукі ды за ногі вынесьлі старшыню ЦВК з кабінэту, але... прапусьцілі пры гэтым на ўзяты штурмам аб'ект дэпутатаў парлямэнту і — што самае страшнае — журналістаў.

Дарма сп. Цесавец бег па калідоры і аддаваў загад нікога не прапускаць. Было позна. Цяпер ён мусіў задыхана тлумачыць мэту сваёй акцыі настаўленым на яго дыктафонам, мікрафонам і відэакамэрам. Скандал адбыўся. Усё гэта было зафіксавана на відэастужку і разьляцелася па сьвеце.

Не абыйшлося без сутычак паміж дэпутатамі і «прыхільнікамі прэзыдэнта», як, напрыклад, прадставіліся дэпутату-камуністу Шчукіну стрыжаныя хлопчыкі ў цывільным. Пакуль сп. Ганчар тлумачыў сп. Цесаўцу нормы Канстытуцыі, якія той парушыў, выконваючы антыканстытуцыйны загад Лукашэнкі, падзеі разгортваліся драматычна.

Дыскусію раптам перарваў крык: «Шчукіна б'юць!» Сапраўды, дэпутату спрабавалі круціць рукі некалькі падначаленых сп. Цесаўца. Але справіцца з былым падводнікам было ня лёгка. Барадаты дэпутат вазіў на сабе чалавек пяць «хунвэйбінаў», калі апынуўся ў цэнтры ўвагі. Дэпутаты Данэйка і Дабравольскі прыйшлі на дапамогу калегу, спрабуючы спыніць гвалт, але ледзьве самі ня сталі аб'ектам нападу. Тым часам вымушаны бараніцца Шчукін у нейкі момант апынуўся на падваконьні і адтуль каменем упаў на кіраўніка групы захопу сп. Цесаўца. Барацьба паміж імі наймацнейшага ня выявіла, бо была спыненая.

Увогуле, што павінен адчуваць сталы дэпутат, калі яму круцяць рукі патэнцыяльныя ўнукі? Альбо як будзе ставіцца да сытуацыі старшыня парлямэнту ці генэральны пракурор, калі іх, як шкаляроў, не пускаюць туды, куды ім трэба, тыя самыя шкаляры? Паглядзеўшы на ўсё гэта, Сямён Шарэцкі заявіў пра неканстытуцыйны захоп улады ў краіне. Бліжэй да вечару каля будынку ЦВК сабраліся людзі. Таксама быў народ і каля парлямэнту.

На сёмым паверсе парлямэнцкага будынку нехта вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг, што выклікала станоўчую рэакцыю ў людзей і зусім адваротную — у міліцэйскіх чыноў. Выпраўляць непарадак пабеглі ўсё тыя ж хлопчыкі ў цывільным. І зноў спазьніліся. Хіба што ледзьве не арыштавалі дэпутата Лябедзьку, які выходзіў са свайго кабінэту...

Сьпікер Шарэцкі выйшаў да людзей і заклікаў іх разыходзіцца. Мауляў, захопу парлямэнту ня будзе, і ўсе наступныя дні ў Вярхоўным Савеце будзе наладжанае дзяжурства дэпутатаў. Тым ня менш, на пляцы Незалежнасьці ўсю ноч стаяў пікет БНФ.

Ночку ў парлямэнце разам з дэпутатамі дзяжурылі і журналісты. А наступнага дня старшыню Цэнтарвыбаркаму зноў не пусьцілі на працу, пасьля чаго было заяўлена, што ЦВК будзе працягваць сваю працу ў парлямэнце. Вярхоўны Савет прыняў зварот да міжнароднай супольнасьці і беларускага народу пра палітычную сытуацыю ў краіне. У адказ міжнародныя арганізацыі заявілі, што ня будуць прызнаваць вынікі беларускага рэфэрэндуму, як незаконнага.

Працэс, як кажуць зайшоў надта далёка. Камусьці ня жыць: альбо прэзыдэнту, альбо парлямэнту. На баку Лукашэнкі сіла. Відавочна, што хутка будуць падпісаныя ўказы пра спыненьне дзейнасьці Канстытуцыйнага Суда, адстаўку генпракурора і роспуск парлямэнту.

Лукашэнку ніколі ня быць джыгітам. Джыгіты не папаўзуць на каленях ні на ўсход, ні на захад. Годнасьць не дазваляе. І грубая сіла — ня іх канёк. У гэтым сьвеце не заўжды перамагае сіла. Бо ёсьць яшчэ і сумленьне. Парлямэнт стаіць пад сумленным сьцягам. Кожны будзе вырашаць сам, ці стаць пад гэты Сьцяг. Час ікс — судны час настаў. Пачалася ягоная кроніка.

*17 лістапада*

Людзі якія ў гэты дзень выйшлі на пляц Якуба Коласа, каб пратэставаць супраць палітыкі Лукашэнкі, у першую чаргу дамагаліся свабоды слова для парлямэнту. Але шлях да пляцу Незалежнасьці, як заўжды, быў складаны. Улады прапанавалі тое месца, дзе заўсёды зьбіралі сваіх «бандэрлёгаў» — пляц Бангалор. Ці маглі вольныя людзі ў час, калі вырашаецца лёс Айчыны, пайсьці ў рэзэрвацыю? Рэзэрвацыя — лёс «бандэрлёгаў», лёс вольных людзей — Незалежнасьць, і яны дайшлі да пляцу з назвай сваго лёсу.

Дзіўна, як маглі ад пяці да васьмі тысяч дэманстрантаў дамагчыся сваёй мэты, калі ім супрацьстаяла столькі ж, а можа і больш міліцыі, АМОНу, спэцназу з дубінкамі, бэтээрамі і іншымі прыладамі. Насамрэч адказ просты — народ, які стаіць пад сумленным сьцягам, спыніць цяжка.

Міліцыя была ня тое што спалоханая, але нейкая дэмаралізаваная. Калі ў простай размове хаваюць вочы і «пацаны» тэрміновай службы, і палкоўнікі, калі ад афіцэра амону чуеш: «Браток, ну убери камеру, вы ж и нас поймите», — адчуваеш, што рэжым хістаецца.

Вядома, была і іншая міліцыя, якая дубасіла народ каля гатэлю «Менск», якая ўдарыла гумовай палкай па галаве дэпутата ВС праф. Багданкевіча, якая загадвала выганяць журналістаў. Але, тым ня менш, сумленны сьцяг стаяў на пляцы Незалежнасьці, а не на пляцы «бандэрлёгаў».

**Алег Дашкевіч**



Здымак Міхала Баразны

А н к е т а

## Размова з чытачамі

Сёньня мы падводзім вынікі анкеты, у якой чытачы "Нашай Нівы" даюць ацэнку тыднёвіку, яго матэрыялам і аўтарам, выказваюць свае заўвагі і пажаданьні. Увогуле на нашую анкету адказала 5 працэнтаў ад усіх чытачоў "НН".

*Матэрыял друкуецца на старонках 3 і 13.*

## Калі бруд на руках ператвараецца ў кроў

*Слова ў падтрымку паэта Славаміра Адамовіча*

Творчасьць ня церпіць дыктатуры. Дыктатура ня церпіць творчасьці. Прырода волі ня церпіць прытворства. Мы, сябры Таварыства Вольных Літаратараў, адкрыта і ясна гаворым: хопіць маўчаць! Хопіць маўчаць, калі ў турме гіне паэт Славамір Адамовіч, якога рэжым спрабуе зрабіць «дзяржаўным злачынцам» за верш... Хопіць маўчаць, калі ў турме сядзіць кожны іншы Творца — толькі за тое, што ён ня церпіць подласьці, хлусьні, прытворства, зьнявагі й зьдзеку са сваёй Радзімы.

У жывога чалавека немагчыма скрасьці паветра, так і ў сапраўднага Творцы немагчыма скрасьці волю й прагу да ісьціны. Але Творцу можна забіць. Сёньня яны рабіць гэта яшчэ баяцца. Хутка — баяцца ня будуць. Магчыма, якраз праз столькі часу, колькі мы яшчэ зьбіраемся маўчаць.

Паэт у турме — сёньняшняя Беларусь. Лёс Беларусі заўтрашняй залежыць ад нас.

**Сябры Рады ТВЛ: Алесь Аркуш, Ігар Сідарук, Вінцэсь Мудроў, Юры Гумянюк, Юрась Пацюпа.**

*2 лістапада 1996 г.*

# Зварот Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

Сёньня ў Рэспубліцы Беларусь пад выглядам правядзеньня рэфэрэндуму ідзе захоп улады і усталёўваецца адкрытая дыктатура. Указы Прэзыдэнта А.Р.Лукашэнкі аб прызнаньні нядзейнымі рашэньняў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, аб вызваленьні ад пасады Старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі В.І.Ганчара ня толькі антыканстытуцыйныя, але й супярэчаць здароваму сэнсу.

Становіцца ўсё больш відавочна, што А.Р.Лукашэнка ўступіў на шлях антыканстытуцыйных рашэньняў, не спыняецца ні перад чым. Адно парушэньне закону спараджае другое.

Для забесьпячэньня любым спосабам патрэбнага выніку пастаўленая задача ў парушэньне закону галасаваньне па рэфэрэндуму ў асноўным скончыць да 23 лістапада, а да выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савету сарваць. Бюлетэні для галасаваньня вырабленыя і накіраваныя на выбарчыя ўчасткі Упраўаю Справаў Прэзыдэнта, мінаючы Цэнтральную выбарчую камісію. Колькасьць гэтых бюлетэняў нікому невядомая. Найгрубейшыя парушэньні допускаюцца ў ходзе фінансаваньня рэфэрэндуму. Дагэтуль бляжуецца легальнае выдзяленьне сродкаў Цэнтральнай выбарчай камісіі на гэтыя мэты. У той жа час для правядзеньня рэфэрэндуму ствараюцца паралельныя структуры.

У цэнтры Эўропы ажыцьцяўляецца жудасны экспэрымэнт масіраванага ўздзеяньня на сьвядомасьць і падсьвядомасьць людзей маніпуляванымі А.Р.Лукашэнкам сродкамі масавай інфармацыі. Грамадзяне рэспублікі пазбаўленыя магчымасьці зрабіць асэнсаваны і аб'ектыўны выбар. Па сутнасьці рэфэрэндум ператвараецца ў фарс.

Паважаныя суайчыньнікі!

Мы зьвяртаемся да вас з просьбай зрабіць усё магчымае, каб не дапусьціць усталяваньня дыктатуры ў Беларусі, не дапусьціць масавых расправаў і рэпрэсіяў над людзьмі, якія думаюць інакш, чым А.Р.Лукашэнка і ягонае атачэньне!

Паважаныя члены Кабінэту Міністраў Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя кіраўнікі абласьцей і раёнаў!

Мы зьвяртаемся да кожнага з вас з просьбай праявіць грамадзянскую мужнасьць і ня стаць памагатымі ўзмацненьня дыктатарскага рэжыму!

Мы зьвяртаемся з заклікам да кіраўнікоў Пракуратуры, Вярхоўнага Суда, МУС, КГБ і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь ня даць уцягнуць сябе ў авантуру, у незаконныя дзеяньні, накіраваныя супраць інтарэсаў народу і на ўдушэньне дэмакратыі!

Мы заклікаем кіраўніка Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў Б.М.Ельцына, кіраўнікоў дзяржаваў і парлямэнтаў Садружнасьці зрабіць усё, каб мір і спакой захаваліся на шматпакутнай зямлі Беларусі.

Мы зьвяртаемся з заклікам да кіраўнікоў дружалюбных краінаў найбліжэйшым часам сабраць экстранае паседжаньне кіраўнікоў дзяржаваў, урадаў і парлямэнтаў Садружнасьці для разгляду сытуацыі ў Беларусі.

Мы зьвяртаемся да сусьветнай супольнасьці, кіраўнікоў дзяржаваў, кіраўнікоў парлямэнтаў аказаць палітычную і маральную падтрымку парлямэнту і народу, які перажыў за апошнія стагодзьдзе мноства трагедыяў, страціў у сусьветных войнах мільёны сваіх сыноў і дачок. Мы маем права разьлічваць на тое, што ў Беларусі, у цэнтры Эўропы ня ўзьнікне дыктатарскі рэжым, накіраваны на ліквідацыю інстытуту парлямэнтарызму і дэмакратыі.

Мы выказваем упэўненасьць, што гэты Зварот знойдзе водгук у сэрцах і розумах беларускага народу, а таксама людзей добрай волі Эўрапейскага кантынэнту і нашай плянэты!

**Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь**

*15 лістапада 1996 году*

Наша Ніва 18 лістапада 1996
№ 33 (71)

# Шлях Эўропы ў Беларусь

### Што такое эўрапейскасьць?

Чаго я чакаю ад Эўропы? Перш за ўсё таго, што гэтая шчодрая цётухна накорміць, напоіць мяне ды надрукуе мае эсэ ды раманы. Але ж я разумею, што не накорміць, не напоіць і не надрукуе.

Чаго яшчэ я чакаю ад Эўропы? А вось — каб там не было Расеі.

Сапраўды, Расея ды Амэрыка, гэтыя melting pots, раствараюць людзей, культуры, этнасы; гэтымі велізарнымі нацыянальнымі мэханізмамі немагчыма рацыянальна кіраваць. А Эўропа — гэта нешта камэрнае, такое, чаго можна дасягнуць розумам. Расея не супадае з нашым уяўленьнем пра Эўропу. Аднак Эўропа не ўратуе нас ад наступкаў каляніялізму: патрэбны нам уласны ўнутраны зрух.

Што ж да тых, якія разьлічваюць увайсьці ў Эўропу разам з Расеяй... Гэта нагадвае мне стары савецкі анэкдот пра тое, што вайны ня будзе, але будзе такая барацьба за мір... Так і тут: Эўразіі не застанецца, але будзе такая Эўропа, у якую нават мы ня схочам...

Калі сур'ёзна, дык нам хочацца ў Эўропу, таму што нам хочацца жыць у такой прасторы, у такім часе, якія б не растваралі ў сабе ні індывідуальнасьці чалавека, ні асобнай культуры. І мы лічым, што такім месцам у гісторыі магла б стаць Эўропа ці, больш канкрэтна, Сярэдняя Эўропа, ці... Эўрапейскасьць — гэта шматкультурнасьць у абмежаваным. У эўрапейскасьці — адмова ад падзелу на сваё і несваё (калі «это — русское, а это — не наше»), у эўрапейскасьці — успрыманьне чужой культуры як свайго чужога, нечага такога, чым я не магу распараджацца, але за што я адчуваю адказнасьць. Эўрапейскасьць — гэта ня проста талерантнасьць у дачыненьні да чужых культураў, а такі стан, калі суіснаваньне зь імі прыносіць асалоду, робіцца неабходным. Уласна кажучы, калі чужыя культуры становяцца сваімі чужымі.

Дзеля таго, каб сьцьвердзіць у сабе гэтую эўрапейскасьць, мы хочам ісьці ў Эўропу.

Але якая Эўропа будзе найлепей гарантаваць бясьпеку нашай камэрнай шматкультурнасьці?

### Партнэрства дзеля эўрапейскасьці

Шлях да пабудовы крыху больш надзейнай і дынамічнай Цэнтральнай Эўропы напрошваецца сам сабой. Гутарка тут пра фармаваньне своеасаблівага ланцуга: Нямеччына дапамагае ўвайсьці ў эўрапейскія структуры Польшчы, Польшча дапамагае ў тым самым Украіне, Украіна — Беларусі. Гаворка йдзе пра ўтварэньне трыкутніка Варшава-Кіеў-Менск, у якім Украіна і Беларусь ураўнаважвалі б заходняга партнэра.

Ідэі Балта-Чарнаморскага саюзу не спрацавалі. І сапраўды, што агульнага ёсьць у эстонцаў з украінцамі? Хіба што ідэя антырасейскасьці. Але кожнае «анты» можа быць прычынаю, але не асноваю саюзу.

Украінска-беларускае стратэгічнае партнэрства — гэта не антырасейскі блёк, гэта альянс дзеля пераадольваньня наступкаў каляніялізму ў сабе ды фармальнай інтэграцыі ў эўрапейскія структуры.

### Украінска-беларускае стратэгічнае партнэрства

Бясспрэчна, патэнцыйна Ўкраіна — гэта рэгіянальная супэрдзяржава і паводле колькасьці насельніцтва, і паводле геаграфічнага становішча, і праз агульную зацікаўленасьць у гэтым. Ператварэньне Ўкраіны ў рэгіянальную супэрдзяржаву пайшло б на карысьць усім: ураўнаважыла б расейскія ўплывы ў Беларусі, прынесла б Каўказу надзею на стабільнасьць, гарантаваную трэцяй сілай, упарадкавала б сытуацыю на паўднёвым усходзе Эўропы. Нарэшце, Расея страціла б усялякую пэрспэктыву экстэнсыўнага разьвіцьця, экспансіі на Захад і была б змушаная да засяроджваньня на ўнутранай рэфлексіі, якая лягічна павінна прывесьці да ўнутранага ўстойлівага разьвіцьця.



Украінская патэнцыйнасьць можа рэалізавацца пры ўмове эвалюцыі, а дакладней, рэвалюцыі ўкраінскай саматоеснасьці. Разбурэньне нацыянальнай, рэгіянальнай і мясцовай саматоеснасьці ў савецкі час прывяло да адзінага доўгатэрміновага наступку: нараджэньня комплексаў уласнае непаўнавартасьці, безь перадоленьня якіх пэрспэктывы дасягненьня ўстойлівага ўнутранага дынамізму маларэальныя.

Адчуваньне агульнай непаўнавартасьці, маргінальнасьці ды асабістай бескаштоўнасьці выступае галоўным чыньнікам крывавых міжнацыянальных і міждзяржаўных канфліктаў. Агрэсія — гэта спосаб пазбавіцца агульнанацыянальных і асабістых комплексаў.

Новы асобны кантэкст, новая дыялектыка рэгіянальных дачыненьняў могуць зьняць комплексы самастоеснасьці, паспрыяць унутранай інтэграцыі, удыхнуць жыцьцё ў новыя партрэты беларускай ды ўкраінскай ідэнтычнасьці.

Беларусь і Ўкраіна — дзьве краіны, якія перажылі найбольш разбуральнае сутыкненьне з эўразійска-расейскай цывілізацыяй, што непазьбежна прывяло іх да культурнага спаду.

Беларусь і Ўкраіна блізкія ня толькі геаграфічна, лінгвістычна, але й з прычыны агульнага гістарычнага досьведу, досьведу Вялікага княства Літоўскага, уніі, Рэфармацыі, барока, сёньняшняга нэапратэстантызму.

Украіна адыграла й пэўную ролю ў разьвіцьці новабеларускай нацыі ды дзяржаўнасьці. Так, Францішак Багушэвіч пачаў пісаць свае вершы, перабываючы ў Нежыне ў эміграцыі, а Ўкраінская Народная Рэспубліка прызнала, падтрымала, падвяла да абвяшчэньня незалежнасьці БНР.

Украінскі ўплыў быў, але стабільнага дыялёгу не адбывалася.

Паласа пушчаў ды балотаў Палесься падзяліла два народы мацней, чым мог бы падзяліць акіян у якім іншым выпадку. Ад палескае мяжы Беларусь ды Ўкраіна рухаліся ў розных кірунках. Беларусы хацелі дакрануцца да Балтыкі, украінцы — асвоіць Чорнае мора. Беларусы да мора не дайшлі, і гэта вызначыла іхнюю долю (ці нядолю). Украінцы дасягнулі мэты, але вялікае пашырэньне нацыянальнай прасторы выклікала небясьпечную энтрапію. Паўстала праблема пераворваньня Ўсходу ці пераворваньня Ўсходам.

Беларуска-ўкраінскі культурны дыялёг практычна ня вёўся, бо нашыя культуры разьвіваліся паралельна, тымі самымі этапамі, а таму былі малацікавыя адна адной.

Вільня ды Львоў — яшчэ адзін прыклад паралелізму беларускай ды ўкраінскай культураў. Вільня — дзівосны помнік ліцьвінска-беларускіх мрояў пра мора і выйсьце ў першую Эўропу. Львоў — сьведка ды вястун рацыянальнасьці супраціву ўсходняй анархіі, сьведка таго, што «мы другая Эўропа, а трэцяй не бываць». І Львоў, і Вільня так і не былі поўнасьцю засвоеныя ўкраінцамі ды беларусамі і засталіся вялікімі «сваімі чужымі».

Цяпер Вільня адрэзаная ад Беларусі мяжою ды візамі, а таму новае значэньне для нас набывае Львоў.

Цяпер надышоў зручны момант, каб распачаць украінска-беларускі культурны дыялёг і нават, хоць гэта й гучыць правакацыйна, украінскую інфармацыйную ды палітычную экспансію ў Беларусь.

Антыўкраінская кампанія, што разгарнулася ў Беларусі вясною ды летам сёлета, можа быць патрактаваная як нежаданьне пэўных сілаў дапусьціць паўнацэнны ўкраінска-беларускі дыялёг. Украінска-беларускае партнэрства — гэта шлях, па якім Эўропа прыйдзе да нас. Але ланцуг Нямеччына-Польшча-Беларусь не абарвецца на нас. Калі Расея акажацца здольнаю на ўнутраныя зьмены, некаму, без сумневу, давядзецца стаць і адвакатам Расеі перад Эўропай.

**Андрэй Дынько**

# Kalandar

KALANDAR

## 18 listapada

U hety dzień... u 1918 h. Jazep Piłsudzki staŭ načalnikam polskaj dziaržavy.

Naradzilisia: Louis Daguere (1789-1851), francuski mastak, vynachodnik fatahrafičnaha pracesu — dahieratypii; Alan Bartlett Shepard (1923), pieršy amerykaniec, jaki palacieŭ u kosmas; biełaruski paet Anatol Viarcinski (1931).

## 19 listapada

Naradzilisia: Indira Gandhi (1917-84), premjer Indyi; Ferdinand de Lesseps (1805-94), francuski inžyner, aŭtar praektu Sueskaha kanału; Jose Raoul Capablanca (1888-1942) znakamity kubinski šachmatyst, čempijon śvietu ŭ 1921-27 h.

## 20 listapada

Naradzilisia biełaruskija litaratary Michaś Klimkovič (1899), Michaś Zarecki (1901) i Jaŭhienija Janiščyc (1948).

## 21 listapada

Naradzilisia: francuski pišmieńnik i filozaf Valter, sapraŭdnaje imia jakoha Francois-Marie Arouet (1694-1779); Uładzisłaŭ Streminski (1893-1952), biełaruski mastak i tearetyk mastactva.

## 22 listapada

U hety dzień... u 1944 pamior biełaruski pišmieńnik Kuźma Čorny; u 1963 h. u Dallas byŭ zabity prezydent USA John Fitzgerald Kennedy.

Naradzilisia: Thomas Cook (1808-92), anhielski padarožnik; Charles de Gaulle (1890-1970), francuski heneral, pieršy prezydent Piataj Respubliki (1958-69); niamiecki tenisyst Boris Beckier (1967).

U 1975 h. praz dva dni paśla śmierci henerała Franco kniaź Juan Carlos staŭ karalom Hišpanii Juanam Carlosam I; u 1990 h. Margaret Thatcher, pieršaja žančyna-premjer Vialikabrytanii, padała ŭ adstaŭku.

## 23 listapada

Naradziŭsia biełaruski kampazytar Uł.Teraŭski (1871).

## 24 listapada

U hety dzień... u 1943 u ssyłcy pamior biełaruski heohraf Mikałaj Azbukin.

Naradziŭsia: halandzki filozaf Baruch Spinoza (1632-77).

U 1963 h. Jack Ruby, uładalnik načnoha klubu, zastreliŭ Lee Harveya Oswalda, mierkavanaha zabojcy prezydenta Kennedy.

# Адмыслоўца Навінаў

Севярын Кваткоўскі

Менск — невялікі ўтульны горад. Адчуваньне ўтульнасьці ўзьнікае ня дзякуючы адмысловай архітэктуры й жыцьцёвым традыцыям, якіх амаль няма. Менск — месца адпачынку ад эмоцыяў, ад уражаньняў, месца, дзе няма штохвіліннай неабходнасьці прапускаць праз сябе бязьмерную энэргію часу й культуры. У Менску ці ня ўсе нечаканасьці вядомыя табе наперад, яны зьвязаныя з тваім асабістым жыцьцём. Астатнія —мадулюеш сам. Ва ўмовах разрэжанае атмасфэры — культурнай, інфармацыйнай, ва ўмовах, калі ступень важнасьці якой-кольвек грамадзкай падзеі залежыць ад твайго жаданьня, не застаецца нічога, як закатваць рукавы, і самому маляваць навакольную рэальнасьць. У такіх цяплічных умовах для гуманітарнай чыннасьці ўсіх кшталтаў Эўропа йснавала вельмі даўна, а можа — ніколі.

Год таму ў Баварыі быў выкрыты, а пасьля асуджаны на турэмнае зьняволеньне супрацоўнік невялікай лякальнай FM-станцыі. Ягоная віна палягала ў тым, што на працягу некалькіх гадоў ён ПРЫДУМЛЯЎ выпускі навінаў. Ці можа зьдзівіць нашага чалавека тая інфармацыя, што гэтая станцыя мела найбольшую папулярнасьць сярод сваіх канкурэнтаў? Натуральна, не. Ужо колькі пакаленьняў прызвычаілася за савецкім часам успрымаць інфармацыю як своеасаблівую «развлекаловку». У лепшым выпадку цікаўны спажывец інфармацыі рабіў высновы аб сапраўдным стане рэчаў праз сваю ўласную сыстэму здагадак. Але прыклад нямецкага радыё-адмыслоўца падае праблему ў, так бы мовіць, чыстым выглядзе. Журналіст выдумляў інфармацыю «ад балды».

Асабіста мяне ў гэтай сытуацыі ўразіў тэрмін дзейнасьці гэтага чалавека. Два зь лішкам гады ў ягоных сумесьцічаў не ўзьнікала ані падозраньня. Сьвет, пра які ім распавядаў журналіст, быў дужа цікавы. Няўжо яны ня мелі магчымасьці суаднесьці інфармацыю зь іншымі каналамі мас-мэдыя? Яны ня мелі ПАТРЭБЫ суадносіць і аналізаваць. Ці ведаў журналіст пра жорсткасьць айчынных законаў? Хутчэй за ўсё. Але я ня веру, што ён адчуваў сябе злачынцам. Наўрад ці журналістам рухалі адно мэркантыльныя матывы. Магчыма, праз пэўны час ён застанецца ў памяці як адзін з апошніх нямецкіх авангардыстаў-канцэптуалістаў, ці якім рэвалюцыянэрам-нонфармалістам...

Цяпер Беларусь жыве ў часе, калі інфармацыя зрабілася сапраўды ўжытковай, і праз гэта сталася выразна бачна, як моцна яе не стае. Рэч у тым, што ў нас завёўся свой «адмыслоўца навінаў», які ймкнецца пераўтварыць вытворчасьць інфармацыі ў «справу СВАЙГО жыцьця». Ён робіць гэта простым чынам — ператварае сябе ў адзіную бясконцую навіну, і робіць гэта гвалтоўна. Нямецкі журналіст прыдумляў вельмі цікавы сьвет, які нікому не перашкаджаў жыць. Наш «адмыслоўца» робіць усё наадварот.

Праблема ў тым, што вялікай колькасьці беларускіх спажыўцоў інфармацыі гэтай бясконцай «навіны» пакуль цалкам хапае. Больш за тое, яны НЕ ЖАДАЮЦЬ ведаць штосьці іншае. Іх можна зразумець — нараджэньне жаданьня — рацыянальнае. «Адмыслоўца» ўжо пачаў паступова паўтараць «сябе-навіну». Гэта значыць, што неўзабаве ў слухачоў зьявіцца жаданьне «выключыць прыёмнік».

ЛІТАРАТУРА

# Лютэранская споведзь

*Інгмар Бэргман выдаў новую кнігу*

Згодна з ранейшымі абяцаньнямі, 78-гадовы Інгмар Бэргман, пакінуўшы кіно і выйшаўшы на тэатральную пэнсію, інтэнсіўна займаецца пісьменьніцкаю працай. Мінулага панядзелка ў Стакгольме пабачыла сьвет яго новая кніга «Прыватныя размовы». Гэта працяг аўтабіяграфічных аповесьцяў-сцэнароў Бэргмана «Добрыя жаданьні» і «Нядзельнае дзіця». Гэтак сама, як у першых двух творах, у «Прыватных размовах» аўтар расказвае пра бурлівае супольнае жыцьцё сваіх бацькоў. Фабула завязаная на няверпасьці яго маці Карын (у кнізе — Ганны), якая здраджвае са студэнтам тэалёгіі свайму параноідальнаму мужу-пастару. Кніга мае форму пяці размоваў, якія Ганна праводзіць з блізкімі ў 1925-34 гадах. «Прыватная размова» — гэта ў лютэранскай царкве свайго роду адпаведнік каталіцкай споведзі.

Невядома да канца, якія зь пікантных падрабязнасьцяў тых размоваў сапраўдныя і ці апісаныя сустрэчы не ўяўляюць сабою ўвогуле толькі твору аўтарскага ўяўленьня? Як бы там ні было, Бэргману чарговага разу ўдалося стварыць цалкам унівэрсальную, рэлігійна і філязафічна глыбокую рэч. Стакгольмскі «Dagens Nyheter» піша, што, пачынаючы са свайго першага квазі-аўтабіяграфічнага фільму «Фані і Аляксандар», Бэргман раскрываецца як вядучы аналітык мяшчанскага сьвету. «Прыватныя размовы» — гэта таксама гатовы сцэнар фільму. Яго прэм'ера пройдзе найбліжэйшымі Калядамі ў Швэцыі. Рэжысэравала фільм былая партнэрка Бэргмана нарвэжка Ліф Ульман, а ў ролі пісьменьнікавай маці зноў выступіла Пэрніла Огэст, якая за сваё акторства ў «Добрых жаданьнях» здабыла ўзнагароду кінафэстывалю ў Канах.

**П.Ц.**

№ 33/96
18-24 лістапада

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы — штотыдзень 8 палосаў патрэбнае інфармацыі

# Інфарматар НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ
BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION

БІРЖА ПРАЦЫ • КНІГІ • РЫНАК • ТРАНСПАРТ • АДПАЧЫНАК • АДУКАЦЫЯ • СПАЖЫВЕЦ • ЗДАРОЎЕ • КІНО • ТБ • ТЭЛЕСАТ • РАДЫЁ • СПОРТ • МУЗЫКА • ЗА МЯЖОЮ



**Пералікі ўказаў і распараджэньняў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, прызнаных Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь цалкам ці часткова неадпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Паводле стану на 13 лістапада 1996 года**

1. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 28.09.1994 г. №128 "Пытаньні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 14.04.1995 г. прызнаны за неадпаведчы ў частцы наданьня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь функцыяў цэнтральнага органа дзяржаўнага кіраваньня і наданьня ёй уладных паўнамоцтваў адносна іншых арганізацыяў тэлевяшчаньня і радыё.

2. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 21.08.1995 г. №336 "Аб некаторых мерах па забесьпячэньні стабільнасьці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 08.11.1995 г. пункты 1, 2, 3 і 4 Указа прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

3. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.1995 г. №350 "Аб некаторых пытаньнях рэгуляваньня працоўнай дзейнасьці і пэнсійнага забесьпячэньня грамадзянаў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 27.10.1995 г. пункт 1 у рэдакцыі Ўказа Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.10.1995 №437 і пункты 2, 3 і 4 прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

4. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.10.1995 г. №437 "Аб унясеньні зьменаў ва Ўказ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.1995 г. №350 "Аб некаторых пытаньнях рэгуляваньня працоўнай дзейнасьці і пэнсійнага забесьпячэньня грамадзянаў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 27.10.1995 г. пункт 1 прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

5. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 08.08.1995 г. №299 "Аб зацьвярджэньні Палажэньня аб парадку выдачы дыпляматычных і службовых пашпартоў грамадзянам Рэспублікі Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 03.11.1995 г. прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь у частцы пазбаўленьня дэпутатаў Вярхоўнага Савета і судзьдзяў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь права на дыпляматычны пашпарт.

6. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.1995 г. №349 "Аб упарадкаваньні некаторых ільготаў для асобных катэгорыяў грамадзянаў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 26.12.1995 г. пункт 1 цалкам, пункты 2, 3 і 4 у частцы скарачэньня ільготаў і перавагаў, прадугледжаных для грамадзянаў законамі Рэспублікі Беларусь прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

7. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 12.07.1995 г. №267 "Аб удакладненьні бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1995 год і часовых мерах па скарачэньні бюджэтных выдаткаў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 05.10.1995 г. пункты 1, 5, 6 і абзац другі пункта 13 прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

8. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 14.11.1995 г. №464 "Аб стварэньні кадравага рэестру Галавы дзяржавы Рэспублікі Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 10.10.1996 г. пункт 2 у частцы ўключэньня ў кадравы рэестар Галавы дзяржавы пасадаў кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, прызначэньне (абраньне) якіх на пасады ажыцьцяўляецца без удзелу Прэзыдэнта і пункт 4 у частцы ўзгадненьня з Прэзыдэнтам накіраваньня ў службовыя замежныя камандзіроўкі кіраўнікоў дзяржаўных органаў, непадведамасных Прэзыдэнту прызаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

9. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 19.09.1995 г. №383 "Аб правядзеньні рэформаў мясцовага кіраваньня і самакіраваньня".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 11.12.1995 г. цалкам прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

10. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 27.11.1995 г. №481 "Аб зацьвярджэньні прыблізнай структуры мясцовых адміністрацыяў у раёнах гарадоў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 11.12.1995 г. цалкам прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

11. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 30.11.1995 г. №485 "Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Часовае палажэньне аб мясцовай адміністрацыі".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 11.12.1995 г. цалкам прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

12. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.11.1995 г. №476 "Аб зацьвярджэньні Палажэньня аб старшыні абласнога, Менскага гарадзкога выканаўчага камітэта".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 18.06.1996 г. часткова прызнаны за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

13. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 13.07.1995 г. №271 "Аб аплаце працы службовых асобаў некаторых дзяржаўных органаў".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 28.12.1995 г. пункты 1 і 2 прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

14. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.08.1995 г. №301 "Пра ўнясеньне зьмены ў прылажэньне 2 да Указа Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 13.07.1995 г. №271.

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 28.12.1995 г. пункты 1 і 2 прызнаныя за неадпаведныя Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

15. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.12.1995 г. №519 "Аб некаторых пытаньнях забесьпячэньня дзейнасьці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 04.07.1996 г. прызнаны часткова за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

16. Распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 29.12.1995 г. №259рп "Аб выкананьні нормаў указаў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 29.04.1996 г. прызнаны за неадпаведны пункт 1 у частцы, што прадпісвае дзяржаўным органам забясьпечыць безумоўнае выкананьне нормаў указаў, прызнаных ва ўстаноўленым законам парадку неканстытуцыйнымі і якія ня маюць юрыдычнай сілы.

17. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 28.06.1996 г. №233 "Аб рэарганізацыі газэты "Народная газета".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17.10.1996 г. прызнаны цалкам за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

18. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 14.10.1996 г. №424 "Аб унясеньні зьменаў ва Ўказы Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 28.06.1996 г. №233 і ад 28.06.1996 г. №235".

Заключэньнем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17.10.1996 г. прызнаны цалкам за неадпаведны Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

На разглядзе Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь знаходзяцца наступныя матэрыялы, накіраваныя Старшынём Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь:

1. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.10.1995 г. №433 "Аб зацьвярджэньні Палажэньня аб парадку рашэньня пытаньняў, зьвязаных з аб'яднаньнем аднайменных адміністатыўных адзінак, якія маюць агульны адміністратыўны цэнтар".

2. Указ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 20.10.1995 г. №434 "Пра аб'яднаньне адміністратыўных адзінак Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністратыўны цэнтар".

## The Publishers Weekly Bestsellers
## Сьпіс бэстсэлераў на 11.11.96

| На гэтым тыдні | На мінулым тыдні | Назва кнігі. Аўтар | Выдавецтва | Колькасьць тыдняў у сьпісе |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | The Deep End of the Ocean Жаклін Мічард | Viking | 9 |
| 2 | - | "M" is for Malice Сю Грэфтан | Henry Holt | 1 |
| 3 | 2 | The Laws of Our Fathers Скот Тараў | Farrar, Straus & Giroux | 6 |
| 4 | 5 | The Tailor of Panama Джон Ле Карэ | Knopf | 3 |
| 5 | 4 | Desperation Стывэн Кінг | Viking | 3 |
| 6 | 9 | The Third Twin Кэн Фолет | Crown | 9 |
| 7 | - | My Gal Sunday Мэры Хігінс Кларк | Simon &Schuster | 1 |
| 8 | 7 | Executive Orders Том Клэнсі | Putnam | 13 |
| 9 | 6 | The Regulators Рычард Бахман | Dutton | 6 |
| 10 | 10 | The Notebook Нікалас Спаркс | Warner | 4 |

@1995 Cahners Publishing Company

## 20 ЛЕПШЫХ ВІДЭАКЛІПАЎ *"MTV"* НА 12 ЛІСТАПАДА 1996 ГОДА

"+" - кліп палепшыў пазыцыю ў сьпісе ў параўнаньні зь мінулым тыднем
"-" - кліп пагоршыў сваю пазыцыю
"*" - навінка
"=" - бязь зьменаў пазыцыі

| Пазыцыя | Выканаўца | Назоў кліпа |
|---|---|---|
| * 20 | **Red Hot Chili Peppers** | Love Rollercoaster |
| - 19 | **Soundgarden** | Blow Up The Outside World |
| * 18 | **The Fugees** | Ready Or Not |
| +17 | **Celine Dion** | It'All Coming Back To Me Now |
| * 16 | **2Pac** | I Ain't Mad At Cha' |
| - 15 | **Hootie And The Blowfish** | Sad Caper |
| + 14 | **The Fugees (Refugee Camp)** | No Woman No Cry |
| + 13 | **Madonna** | You Must Love Me |
| + 12 | **311** | All Mixed Up |
| - 11 | **R.E.M.** | Bittersweet Me |
| + 10 | **Bush** | Swallowed |
| + 9 | **Sheryl Crow** | If It Makes You Happy |
| + 8 | **Marilyn Manson** | The Beautiful People |
| = 7 | **Counting Crows** | Angels Of The Silences |
| - 6 | **Sublime** | What I Got |
| + 5 | **Metallica** | Hero Of The Day |
| + 4 | **Dr. Dre** | Been There, Done That |
| - 3 | **Bones thugs-n-harmony** | Days Of Our Lives |
| + 2 | **No Doubt** | Don't Speak |
| = 1 | **Blackstreet featuring Dr. Dre** | No Diggity |

# СЬВЕТ ЗА ТЫДЗЕНЬ

## КРАІНА

**У АЎТОРАК**, 12 лістапада, ў аўтамабільнай катастрофе загінуў кіраўнік цэнтру "Усход-Захад" 37-мі гадовы Анатоль Майсеня.

**У СЕРАДУ**, 13 лістапада, Аляксандар Лукашэнка выступіў з прамоваю ў Дзяржаўнай Думе Расеі. У той жа дзень у Маскве група дэпутатаў Вярхоўнага Савету на чале зь Віктарам Ганчаром не атрымала слова для выступу ў адказ.

**АЛЯКСАНДАР** Лукашэнка зьняў Віктара Ганчара з пасады старшыні ЦВК сваім загадам ад 14 лістапада, у той час як зрабіць гэта паводле канстытуцыі мае права толькі Вярхоўны Савет.

**ВІКТАР** Ганчар заявіў, што не прызнае загаду прэзыдэнта і падпарадкоўвацца толькі Вярхоўнаму Савету. Раніцой 15 лістапада Віктар Ганчар прабіўся цераз міліцэйскую заслону на сваё працоўнае месца, але каля 13 гадзінаў дня супрацоўнікі Галоўнага ўпраўленьня дзяржаўнай аховы пры прэзыдэнце з прымяненьнем фізычнай сілы вывелі старшыню ЦВК са свайго кабінэту. Адначасова быў зьбіты дэпутат Валеры Шчукін, што там прысутнічаў. Сямён Шарэцкі заявіў, што "у рэспубліцы адбыўся захоп улады антыканстытуцыйным шляхам".

**ДЫРЭКТАР** дэпартамэнту Беларусі, Украіны і Малдовы Джэк Сыгал заявіў, што Злучаныя Штаты занепакоены антыканстытуцыйнымі дзеяньнямі прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. ЗША заклікалі прэзыдэнта і парлямэнт "да супрацоўніцтва ў межах дзейснай Канстытуцыі".

**ДЭПУТАТЫ** Вярхоўнага Савету правялі ноч з 15 на 16 лістапада ў памяшканьні парлямэнту. Учора прэзыдыюм прыняў зварот да сусьветнай і беларускай грамадзкасьці, у якім кажацца пра пагроз дыктатуры, якая усталёўвацца пад выглядам рэфэрэндуму. На панядзелак прызначаная экстраная сэсія Вярхоўнага Савету, на якую запрошаны прэзыдэнт, генэральны пракурор, сябры ўраду і старшыня Канстытуцыйнага Суду.

**ЦЫТАТА** Анатоль Майсеня. *"Лукашэнку падтрымліваюць у Расеі палітыкі аднога зь ім тыпу — Жырыноўскі, Лебедзь. Яны рвуцца да ўлады, ім ня пісаныя ні законы, ні Канстытуцыя. Яны зьвяртаюцца наўпрост да народу, бо ведаюць, што толькі абалваніўшы народ яны могуць утрымацца ва ўладзе. І гэтым людзям мы можам сёньня сказаць — адарвем ногі разам з ботамі і не памыюць яны іх у Індыйскім акіяне, калі вы палезеце сюды, на Беларусь."*

**ЦЫТАТА**. Віктар Ганчар. *"...Што датычыць галасаваньня, то Цэнтральная выбарчая камісія ня можа прызнаць тую прававую вакханалію, якая адбываецца зараз на выбарчых участках. У гэтай сувязі, я афіцыйна заяўляю, што пакуль на кожным выбарчым участку ня будуць абодва праекты дадаткаў у Канстытуцыю, Цэнтральная выбарчая камісія не прызнае вынікі папярэдняга галасаваньня... Я афіцыйна заяўляю, што ў сувязі з гэтай прававой і палітычнай вакханаліяй я, як старшыня ЦВК выніковы пратакол галасаваньня падпісваць ня буду".*

## СЬВЕТ

**ТУРЦЫЯ**. Міністар замежных справаў Тансу Чылер падчас візыту ў Ярданію заявіла, што яе краіна, нягледзячы на супраціў Злучаных Штатаў, адчыніць трубапровад з Іраку да міжземнаморскага узьбярэжжа Турцыі. Тансу Чылер сказала, што ААН ухваліла ідэю падобнага праводу, які дазволіць Іраку закупаць мэдыкамэнты і прадукты.

**ЛІБІЯ**. Муамар Каддафі абвясьціў у краіне ўсеагульную мабілізацыю ў адказ на стварэньне мабільных сілаў хуткага рэагаваньня Італіі, Францыі, Гішпаніі і Партугаліі. Лібійскі лідар заявіў, што разглядае стварэньне падобных частак як абвяшчэньне вайны яго краіне.



**УКРАІНА**. Першы намесьнік міністра абароны краіны Бяжан усклаў на Расею няўдачу перамоваў па падзелу Чарнаморскага флёту. Нагадаем, што Расея патрабуе права ўласнасьці на некаторыя ваенныя базы ў Крыму. Украіна ж пагаджаецца толькі на прадастаўленьне Расеі права арэнды базаў на сваёй тэрыторыі.

**ПОЛЬШЧА**. Міністар замежных справаў Польшчы Расаці адзначыў, што Польшча ня можа пайсьці на прапанаваны Расеяй рэжым вольнага гандлю, бо гэта супярэчыць пагадненьням Польшчы з Эўрапейскім Эканамічным Саюзам.

**АЛЬЖЫР**. Чарговы тэрарыстычны акт альжырскіх фундамэнталістаў у Бырхадэме, паўднёвым прадмесьці сталіцы краіны, прывёў да сьмерці пятнаццаці пасажыраў рэйсавага аўтобуса, які быў зьнішчаны пры выбуху начыненага тратілам аўтамабіля.

**ЛІТВА**. На выбарах у парлямэнт па аднамандатных акругах яшчэ 35 месцаў атрымала партыя Вітаўтаса Ландсбэргіса "Саюз Айчыны". Разам зь месцамі, атрыманымі па партыйных сьпісах яна будзе прадстаўленая ў Сэйме сямідзесяцьма дэпутатамі (усяго дэпутацкіх мандатаў — 141).

**УКРАІНА**. Са словаў сакратара Рады нацыянальнай бясьпекі і абароны Украіны Гарбуліна, удзел яго краіны ў праграме "Партнэрства дзеля міру" можа ўрэшцы рэшт прывесьці да ўступленьня яе ў сам блёк NATO.

**ІНДАНЭЗІЯ**. На патрабаваньне ваенных уладаў дзьве інданэзійскія тэлекампаніі зьнялі рэкляму брылянціна, у якой малады чалавек выказвае па тэлефоне сваёй сяброўцы шкадаваньне, што яму прыйдзецца састрыгчы свае валасы з-за службы ў войску. Вайскоўцы лічаць, што такая рэкляма стварае адмоўны імідж службы ў войску.



**АНГЛІЯ**. Супрацоўнікі Імпэрскага каледжу і музэю натуральнай гісторыі ў Лёндане, абапіраючыся на вынікі геалягічных досьледаў паўвыспы Юкатан, заявілі, што дыназаўры загінулі пасьля таго, як на зямлю 65 мільёнаў гадоў таму ўпаў гіганцкі астэроід. У выніку выбуху, роўнаму выбуху 10000 вадародных бомбаў, у паветра ўзьнялася такая колькасьць пылу, што на Зямлю на працягу трох месяцаў не даходзіла сонечнае сьвятло, з-за чаго не праходзіў фотасынтэз і што прывяло да масавай гібелі як наземных, так і марскіх жывёлаў.



**ЗША**. У штаце Агаё буран і сьнегапад пашкодзілі электралініі і дзясяткі тысячаў людзей засталіся без электрычнасьці. Вышыня сьнежнай покровы перавысіла 30 см.

**БОСЬНІЯ**. Ваенныя лідары басьнійскіх сербаў на чале з генэралам Ратка Младзічам адмовіліся выконваць загад прэзыдэнта Біляны Плаўшыч і сыходзіць у адстаўку. Прызначаны на месца Младзіча генэрал-маёр Пора Чоліч апынуўся ў поўнай ізаляцыі — усе ягоныя загады ігнаруюцца. Прэзыдэнт Югаславіі Слабадан Мілошавіч накіраваў свайго прадстаўніка ў Боснію з мэтаю ўрэгуляваньня канфлікту між ваеннымі і палітычнымі ўладамі.





**КАНАДА**. Канада дала згоду ўзначаліць міжнародны кантынгент у Заір. Адначасова ў Заір прыбывае група амэрыканскіх экспэртаў для вывучэньня становішча ў краіне. Місія кантынгенту заключаецца ў перадачы насельніцтву прадуктаў. Прэм'ер-міністар Канады Жан Крэцьен сказаў, што колькасьць кантынгенту мусіць складаць каля 10 тыс. чалавек.

**ЭГІПЕТ**. У Каіры праходзіць Міжнародная эканамічная канфэрэнцыя па Блізкім Усходзе, на якой сустракаецца каля 10 тысячаў бізнэсмэнаў з усяго арабскага сьвету. Палестынцы заклікаюць да байкоту Ізраіля, калі той ня выведзе свае войскі з Хэброна.

**ЛІТВА**. У Вільні ад сардэчнага ўдару памёр вядомы кінарэжысэр Вітаўтас Жалакявічус. Аўтару фільмаў "Ніхто не хацеў паміраць", "Гэта салодкае слова свабода", "Кроніка аднога дня" і інш. было 66 гадоў.

**ЗША**. Традыцыйнае галасаваньне ў Генасамблеі ААН па пытаньні амэрыканскага эканамічнага эмбарга Кубы скончылася тым жа, чым і ў мінулым годзе. За адмену эмбарга галасавала 138 краінаў, супраць — тры: ЗША, Ізраіль і Узбэкістан.



**СЛАВЕНІЯ**. Прэзыдэнт Славеніі Мілан Кучан мяркуе, што ў ягонай краіне пры ўваходзе ў NATA можа быць разьмешчаная ядзерная зброя.

**КІТАЙ**. Кітайская паліцыя прымяніла сьлезацечны газ пры разгоне маніфэстацыі сялянаў у правінцыі Хунань, якія пратэставалі супраць павелічэньня падаткаў.

**ЗША**. Карпарацыя "Боінг" атрымала ад ВПС ЗША заказ на суму 1,1 мілярды даляраў для стварэньня ўзброенага лязэрам самалёта, які зможа зьнішчаць балістычныя ракеты. Плянуецца ўвесьці першую партыю зь сямі "Боінгаў" у войска ў 2008 годзе. Агульнае кіраваньне праектам будзе зьдзяйсьняць Цэнтар касьмічных і ракетных сыстэмаў ВПС ЗША на авіябазе Кіртлэнд, штат Нью-Мэксыка.

**ГРЭЦЫЯ**. Пасажырскі паром "Самаіна" пратараніў уноч на аўторак узброены ракетамі эсьмінец "Кастакас". Эсьмінец патануў, чатыры матросы загінулі.

**ЗША**. У штаце Мінэсота кампаніяй "Сылікон грэфікс" прадстаўлены новы супэр-кампутар, здольны праводзіць трыльён калькуляцыяў у сэкунду. Гэта значыць, што на апэрацыі, якія самыя моцныя кампутары праводзяць зараз за тры месяцы, новай машыне спатрэбіцца некалькі дзён. Кошт кампутара на рынку будзе складаць ад 500 000 даляраў і вышэй.

**ІНДЫЯ**. Трэцяя па колькасьці ахвяраў за ўсю гісторыю авіяцыі катастрофа адбылася ў аўторак у дэлійскім аэрапорце. "Боінг-747" саўдаўскай авіякампаніі сутыкнуўся з казахскім самалётам Іл-76. Загінуў 351 пасажыр ( 341 з "Боінга" і 37 з "Ільюшына").

**РАСЕЯ**. У нядзелю, у выніку тэрарыстычнага акту на Катлякоўскіх могілках у Маскве супраць дзеячоў Расейскага фонду інвалідаў вайны ў Аўганістане загінулі 13 чалавек і 26 параненыя. Сярод іх дырэктар фонду. Нагадаем, што гэты фонд мае мытныя і падатковыя ільготы, якія былі дадзеныя яму ў 1993 годзе.

**ЯПОНІЯ**. У інтэрвію японскай тэлекампаніі NHK неназваны афіцэр касьмічнага кіраўніцтва ЗША сказаў, што 28 верасьня гэтага году над паўднёвай часткаю Ціхага акіяну згарэў апошні расейскі спадарожнік-шпіён "Космас-2320". Цяпер Расея ня можа адсочваць ваенную дзейнасьць іншых краінаў з космасу.

**РАСЕЯ**. Дзяржаўная Дума Расеі прыняла зварот да прэзыдэнта Ельцына і Рады Фэдэрацыі з просьбай разгледзець пытаньне аб пастаяннай дысьлякацыі 14 арміі ў Прыднястроўі і прызнаньні гэтага рэгіёну зонай стратэгічных інтарэсаў Расеі.

**КАНАДА**. Знакаміты французскі сьпявак Шарль Азнавур, які прыехаў з гастролямі ў Квэбэк, вырашыў частку песень выканаць па-ангельску. Але заля пачала абструкцыю, а частка гледачоў гучна скандавала — "па-французску".

**РАСЕЯ**. Рада Фэдэрацыі Расеі прапанавала ўраду пачаць грашовую эмісію для таго, каб выплаціць пэнсіі і заробкі.

**ПАЎДНЁВАЯ АСЭТЫЯ**. Прэзыдэнтам Паўднёвай Асэтыі абраны Людвіг Чыбіраў — кіраўнік краіны з 1993 году. У 1991 годзе Паўднёвая Асэтыя абвесьціла незалежнасьць і распачала вайну з Грузіяй. Грузія прызнала выбары нелегітымнымі.

**ДАНІЯ**. Прэм'ер-міністар Даніі прыняў у Капэнгагене брытанскага пісьменьніка Салмана Рушдзі, які прыбыў на цырымонію ўручэньня яму літаратурнай прэміі Эўрапейскага Саюза.

**ГІШПАНІЯ**. Парлямэнт Гішпаніі прыняў рашэньне аб поўнай інтэграцыі гэтай краіны ў ваенныя структуры NATO з мэтаю ўстаць у адзін шэраг звядучымі эўрапэйскімі краінамі.

**КІТАЙ**. Вярхоўны суд Кітаю зацьвердзіў сьмяротны прысуд Чжоў Байфаню — буйному прадпрымальніку і сыну аднога з паплечнікаў Дэн Сяопіна, які абвінавачваўся ў дачы хабару дзяржаўным чыноўнікам.

**РАСЕЯ**. Колькасьць насельніцтва Расеі з пачатку гэтага году паменшылася на 300 тысячаў чалавек і склала каля 148 мільёнаў. Нараджальнасьць зьнізілася паўсюль, апроч Масквы і Чукоткі. Высокая сьмяротнасьць сярод немаўлятаў.

**ІНДЫЯ**. У выніку катастрофы аўтобуса каля гораду Бундзі ў сярэдняй Індыі загінулі 31 чалавек. Пасажыры ехалі на вясельле.

**КУРДЫСТАН**. Аднавіліся перамовы паміж варожымі курдзкімі бакамі — Дэмакратычнай партыяй Курдыстана і Патрыятычным саюзам Курдыстана. Прадстаўнікі гэтых партыяў на сваёй сустрэчы заявілі, што будуць працягваць прытрымлівацца пагадненьня аб спыненьні агню.

**РАСЕЯ**. Завяршыў свой візыт у Японію міністар замежных справаў Расеі Яўген Прымакоў. Пад час візыту абмяркоўвалася стварэньне спэцыяльнай эканамічнай зоны на Курылах і сумеснае выкарыстаньне выспаў у гандлёвым партнэрстве.



**ЗША**. З прычыны адстаўкі дзяржсакратара ЗША Уорэна Крыстафэра ў Белым доме адбылася цырымонія. На ёй Клінтан заявіў, што Крыстафэр "пакінуў сьлед ў гісторыі — прычым не абстрактны сьлед, а канкрэтныя вынікі, якія прыцягнулі за сабой рэальныя зьмены ў жыцьці амэрыканскага народу і народаў іншых краінаў. Мне пашанцавала, што на працягу гэтых чатырох гадоў ён быў побач са мной у якасьці дзяржсакратара, і я ганаруся гэтым".

**ЧЭХІЯ**. На парлямэнцкіх выбарах у гэтай краіне перамогу атрымала кіруючая дэмакратычная партыя.

**РАСЕЯ**. Міжплянэтная станцыя, якая была запушчаная на Марс, застрала на арбіце. Гэта расцэнена спэцыялістамі, як буйную няўдачу расейскай касьмічнай праграмы.

**КІТАЙ**. Кітайскі ўрад абвінаваціў ЗША ў палітыцы эканамічнага стрымліваньня.

# БЕЛАРУСКІ НЕПАДЦЭНЗУРНЫ ДРУК

## Каталёг пэрыядычных ды працяглых выданьняў 1971-88 гадоў

Беларускі "самвыдат" мае даўнія традыцыі. Аднак у сучасным разуменьні слова ён зьявіўся менавіта ў савецкай Беларусі, запаўняючы штучна створаны афіцыйнай уладай інфармацыйны вакуум. "Самвыдат" прайшоў пэўныя этапы ў сваім разьвіцьці. Зьмяняліся ягоныя формы, зьмест, палітычная і грамадзкая накіраванасьць.

Напачатку 70-х гадоў "самвыдат" набывае выразны нацыянальны характар. Робяцца копіі раней выдадзеных кніг з гісторыі і культуры Беларусі, а таксама зьяўляюцца арыгінальныя матэрыялы: палемічныя артыкулы, выкрывальныя вершы, гістарычныя дасьледаваньні, прысьвечаныя найперш пэрыяду савецкай гісторыі; перадрукоўваюцца эміграцкія рэлігійныя і публіцыстычныя выданьні. Зьяўляюцца першыя непадцэнзурныя пэрыядычныя выданьні: "Блакітны ліхтар", "Мілавіца", "Гутарка", "Люстра дзён", "Бурачок". Але асабліва актывізаваўся выпуск непадцэнзурных пэрыёдыкаў з канца 80-х гадоў. Пачатак гэтаму пэрыяду паклалі "Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", "Студэнцкая думка", "Белорусская трибуна", першыя нумары якіх выйшлі ў 1988 годзе. На працягу наступных двух гадоў колькасьць нефармальных газэт і часопісаў павялічылася ў дзясяткі разоў; яны маглі істотна ўплываць на разьвіцьцё грамадзкай думкі і нацыянальнай сьвядомасьці людзей.

Прапанаваны сьпіс самвыдавецкае пэрыёдыкі зьмяшчае друкаваныя дакумэнты, г.зн. створаныя друкарскім, машынапісным, фота- і ксэраспосабам і іншымі тэхнічнымі сродкамі (выключэньне — рукапісны "Блакітны ліхтар" — першае беларускае непадцэнзурнае выданьне паваеннага пэрыяду).

**Ларыса Андросік**

# ГРАМАДЗКІ ЗБОР

Непадцэнзурныя выданьні пры дасьледаваньні генэалёгіі незалежнага беларускага грамадзтва маюць асаблівае значэньне, бо дазваляюць убачыць генэтычны код гэтага грамадзтва — праз сфармуляваныя там думкі і акрэсьліць першапачатковыя структуры грамадзтва — бо ўзьнікненьне выданьня заўжды зьвязанае з функцыяваньнем пэўнага асяродка. Вось чаму фармаваньне фондаў Архіву Найноўшае Гісторыі пачалося са збору непадцэнзурных выданьняў. У рамках Архіву была ўтвораная сэкцыя "Беларускі непадцэнзурны друк", супрацоўнікі якой —бібліёграфы Юрась Лаўрык і Ларыса Андросік.

Зьбіраньне фонду выданьняў — гэта грамадзкі чын. Надрукаваны тут каталёг прадстаўляе выданьні, якія захоўваюцца ў фондах Архіву альбо пра існаваньне якіх нам вядома, але саміх гэтых выданьняў няма ў нашых фондах. Архіў Найноўшае Гісторыі мае надзею, што чытачы "Нашае Нівы" спрычыняцца да папаўненьня фондаў Архіву альбо зробяць удакладненьні ў каталёгу. Паводле нашых зьвестак з 1971 да 1990 г. выходзіла 84 найменьні пэрыёдыкаў. У Архіве прадстаўленыя 71 зь іх. Некаторыя ў цяперашні час недаступныя і, магчыма, увогуле не захаваліся з прычыны палітычнага перасьледу. Агульная колькасьць выдадзеных нумароў, згодна з нашымі падлікамі, складае, лічачы падвоеныя нумары за два, каля 350. Зь іх у Архіве ёсьць арыгіналы і копіі 118. Каталёг мае рабочы характар і адкрыты да абмеркаваньня. Усім калекцыянэрам, архівам і бібліятэкам Архіў Найноўшае Гісторыі прапануе для абмену дублі выданьняў. Супольнымі намаганьнямі мы створым поўную калекцыю непадцэнзурных выданьняў.

Некалькі словаў пра прынцыпы камплектаваньня фондаў. Усе выданьні, створаныя па-за цэнзурным кантролем і прызначаныя для пашырэньня сярод пэўнай чытацкай аўдыторыі, зьяўляюцца прадметам збору. У 1990 г. у СССР была афіцыйна адмененая цэнзура, таму ў катэгорыю непадцэнзурных паводле вызначэньня трапляюць выданьні, якія выходзілі па 1990 г. уключна. У нашым Архіве адсутнічаюць якія-небудзь матэрыялы да 1971 г., маецца толькі пэўная няспраўджаная інфармацыя. Выдавецкі пэрыяд ад 1971 да 1990 г. можна падзяліць на два этапы. Этап ад 1971 да канца 1988 г. вылучаны паводле агульнай пэрыядызацыі дэмакратычнага руху Беларусі й характарызуецца спробамі запачаткаваньня непадцэнзурных пэрыядычных выданьняў. Тады гэтыя спробы былі зьвязаныя зь вялізнай рызыкаю, бо рэжым страшэнна баяўся любога вольнага слова. Ад 1988 г. адбываецца выбух вольнай прэсы. Рызыкі паменела, але сэнс самой зьявы незалежнага друку не зьмяніўся. Збор незалежных выданьняў, якія выходзілі пасьля 1990 г., патрабуе асобнага праекту й асобнага аналізу.

Каталёг, які друкуецца ў гэтым нумары "Нашай Нівы", прадстаўляе напрацоўкі па выдавецкім этапе 1971-88 г. У наступных нумарах тыднёвіка будзе надрукаваны Каталёг выдавецкага этапу 1989-90 г. Апісаньне выданьняў адбываецца паводле наступных прынцыпаў:

— Усе выданьні друкуюцца ў альфабэтным парадку.

— Падставовае апісаньне зьмяшчае назву, падназву, выдаўцоў, месца выданьня, нумары, якія маюцца ў Архіве, альбо пра існаваньне якіх вядома Архіву.

— Элементы апісаньня, якія непасрэдна ня зьмешчаныя ў выданьні, падаюцца ў квадратных рамках.

Таксама па магчымасьці падаецца кароткая гісторыя выданьня й аналіз яго зьместу.

Спадзяемся, што Каталёг патрапіць у рукі цярплівых і дасьведчаных людзей, якія таксама стануць сустваральнікамі фонду Беларускага непадцэнзурнага друку.

**Алег Дзярновіч**

Праца выканана ў рамках праекту "Адна зямля — Усходняя Эўропа". © Архіў Найноўшай Гісторыі, 1996.

**1. БЕЛОРУССКАЯ ТРИБУНА:** падзаголовак зьмяняўся: **БЮЛЛЕТЕНЬ НЕЗАВИСИМОГО ИНФОЦЕНТРА — ГРУППЫ ПОДДЕРЖКИ БЕЛОРУССКОГО НАРОДНОГО ФРОНТА ЗА ПЕРЕСТРОЙКУ "ВОЗРОЖДЕНИЕ"; БЮЛЛЕТЕНЬ НЕЗАВИСИМОГО ИНФОЦЕНТРА — ГРУППЫ ПОДДЕРЖКИ БЕЛОРУССКОГО НАРОДНОГО ФРОНТА ЗА ПЕРЕСТРОЙКУ "АДРАДЖЭНЬНЕ" (ВОЗРОЖДЕНИЕ); БЮЛЛЕТЕНЬ НЕЗАВИСИМОГО ИНФОРМЦЕНТРА; БЮЛЛЕТЕНЬ НЕЗАВИСИМОГО ИНФОРМЦЕНТРА — ГРУППЫ ПОДДЕРЖКИ БЕЛОРУССКОГО НАРОДНОГО ФРОНТА ЗА ПЕРЕСТРОЙКУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"; НЕЗАВИСИМЫЙ ИНФОРМЦЕНТР ГРУППЫ ПОДДЕРЖКИ БНФ; БЮЛЛЕТЕНЬ ГРУППЫ ПОДДЕРЖКИ БНФ // ГЛАВ.РЕД. Н.ФЕДОРОВИЧ.** — [МЕНСК—ВІЛЬНЯ]. — 1988-1989. — Фармат зьмяняўся. — 4'. — 16 с., іл. — Тыраж зьмяняўся. — (машынапіс + ксэра).

1988: 1, 2, 3, 4; 1989: 1, 2, 3 (7), 4 (8), 5 (9), 6 (10), 7 (11), 8 (12), 9 (13),10 (19),12 (16).

Бюлетэнь незалежнага інфармцэнтру (пазьней, з №8 (12) за 1989 г. — незалежнага інфармагенцтва "Белстар") выдаваўся ў 1988-89 г.; выданьне рыхтавалася ў Менску, друк ажыцьцяўляўся спачатку ў Вільні; затым — у Менску. Паводле нашых зьвестак, выйшла, прынамсі, пятнаццаць нумароў: чатыры у 1988 г. і адзінаццаць у 1989 г. Зьвесткі пра нумар 11 (15) за 1989 г. у Архіве адсутнічаюць.

Каптур месьціцца ў верхняй частцы першай старонкі. Наяўнасьць, форма й разьмяшчэньне элемэнтаў — нясталыя. Мастацкае аздабленьне фактычна зьведзена да каптура і рамак. У №1 за 1989 год выкарыстаны фотаілюстрацыі. Колер выданьня чорна-белы. Некаторыя нумары аддрукаваныя на паперы зялёнага колеру (№1, 2; 4 за 1988 год). Мова выданьня — расейская, але вядома пра ўкраінскія ўкладкі і нават украінскамоўны выпуск.

Рэдакцыя дзейнічала пад назвай "Независимого инфоцентра", а ад №8 (12) за 1989 г. — "Информационного агенства "Белстар". Склад рэдакцыі зьмяняўся. Галоўны рэдактар — Н.Федаровіч (сапр. —Н.Корзун). Заяўленая пэрыядычнасьць — 1 раз у тыдзень, — вытрымлівалася толькі ў 1988 да №4 уключна. Ад №1 за 1989 год была заяўлена новая пэрыядычнасьць — 1 раз у дзесяць дзён. Звычайна бюлетэнь выходзіў фарматам у 1/8 аркуша, хоць некаторыя нумары выдаваліся у 1/4 (№1 за 1989 г.) і 1/16 (№3 за 1988 г.) аркуша. Наклад залежаў ад папярэдняга замаўленьня і вагаўся ад 200 асобнікаў да 5000. Аб'ём вагаўся ад 4 старонак да 16. Спосаб рэпрадукаваньня — машынапіс з ксэрапамнажэньнем.

Выданьне мела ярка выражаны палітычны кірунак; друкаваліся пераважна палітычныя артыкулы і праграмныя дакумэнты розных партыяў ды рухаў.

*Дадатковая інфармацыя: Сяргей Няхамес.*

**2. БЛАКІТНЫ ЛІХТАР // В.МУДРОЎ, В.ШЛЫКАЎ, А.РЫБІКАЎ.** — НАВАПОЛАЦАК. — 1971-1974. — 8'. — 20-30 с. — 1 асобнік. — (рукапіс).

1971: 1; 1972: 2, 3; 1973-1974: 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15.

Часопіс "Блакітны ліхтар" выдаваўся групай наваполацкіх студэнтаў і школьнікаў у 1971-74 г. Зьвесткі пра зьнешні выгляд і аздабленьне адсутнічаюць. Выданьне было двухмоўнае: беларуска-расейскае. Непасрэдна выдаваньне ажыцьцяўлялі: В.Мудроў, В.Шлыкаў, А.Рыбікаў (папераменна). Літаратурны часопіс.

Пэрыядычнасьць — нерэгулярная. Фармат — у 1/8 аркуша; аб'ём ад 20 да 30 старонак. Наклад — 1 асобнік. Спосаб рэпрадукаваньня — рукапісны.

Усе нумары былі сканфіскаваныя КГБ. Інфармацыя пра выданьне: Ул.Арлоў, А.Аркуш. Апісаньне складзенае безь візуальнага азнаямленьня з выданьнем. На цяперашні час доступ да выданьня не ўяўляецца магчымым.

**3. БУРАЧОК** (назва №1 — **ВІТАЖЭНЕЦ**). — Менск. — 1987-1988. — 20-24 с. — (Машынапіс).

1987: 1, 2; 1988: 3.

Увесь тыраж другога нумару арыштаваны КГБ. *У фондах Архіву адсутнічае.*

**4. ВЕРА: БЕЛАРУСКІ КАТАЛІЦКІ ЧАСОПІС // [РЭД. А.БЯЛЯЦКІ]** — МЕНСК-СМАЛЕНСК. — 1988 — №1. — 16' — 144 с., іл. — [500 асобн.] — (машынапіс + ксэра).

Выдаваньне каталіцкага часопіса "Вера" ажыцьцяўлялася ў 1987-88 гадах. №1 выйшаў у канцы 1987 - пачатку 1988 году. №2 быў падрыхтаваны, але ня выдадзены. Часопіс рыхтаваўся ў Менску і выдаваўся ў Беластоку. Смаленск, як месца выданьня, указваўся для дэзінфармаваньня службы бясьпекі. Мова выданьня беларуская, правапіс — дарэформенны. Рэдактар — Алесь Беляцкі. Меркаваная пэрыядычнасьць — штоквартальна. Фармат —ў 1/16 аркуша; аб'ём — 14 старонак; наклад — 500 асобнікаў. Спосаб рэпрадукаваньня №1 — машынапіс з ксэракапіяваньнем. №2 быў падрыхтаваны на кампутары; далейшыя выпускі плянавалася ажыцьцяўляць друкарскім спосабам. У часопісе зьмяшчаліся разнастайныя матэрыялы рэлігійнага характару: тэксты малітваў; зьвесткі пра вернікаў у Беларусі і ў сьвеце; артыкулы пра хрысьціянства Янкі Купалы, Казіміра Сваяка; адозва да зьезду пісьменьнікаў Беларусі (Менск, 1976) і т.п. матэрыялы, а таксама паэтычныя творы А.Гаруна і Л.Геніюш ды пераклад апавяданьня Сьв. Г.Ваянскага "Юдава поле", зроблены М.Багдановічам.

Дадатковыя зьвесткі атрыманыя ад А.Бяляцкага.

**5. ГУТАРКА: АБ УСІМ, ШТО БАЛІЦЬ // СЫМОН БЕЛАРУС.** — МЕНСК. —1975-1976. — №1-38. — (машынапіс).

1975: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7; 1976: 1-38.

*У фондах Архіва адсутнічае.*

**5-1. І ВОСЬ ЗАПРЭГЛІСЯ ЎСЕ ТРОЕ: Гутарка №1.** — 14.XI.1975. — 2 с.

**5-2. БЫКОЎСКІ НА ПАСАДЗЕ: Гутарка №2.** — 21.XI.1975. — 4 с.

**5-3. НАВОШТА СВІННІ РОГІ?: Гутарка №3.** — Менск. —28.XI.1975. — 1 с.

**5-4. З ДНЁМ СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ!: Гутарка №4.** —5.XII.1975. — 2 с.

**5-5. МОВА — СЦЯГ НАРОДУ: Гутарка №5.** — 12.XII.1975. — 2 с.

**5-6. ПРЫВЕСЦІ ДА АДПАВЕДНАСЦІ: Гутарка №6.** — 19.XII.1975. — 2 с.

**5-7. ТАМУ, ХТО ПРАЧНУЎСЯ: Гутарка №7.** — 26.XII.1975. — 2 с.

**5-8. РАГВАЛОД І РАГНЕДА: Гутарка №1 (8).** — 2.01.1976. — 3 с.

**5-9. ПРЫЧЫНА НАШЫХ КРЫЎД І БЕД: Гутарка №2 (9).** — 9.01.1976. — 2 с.

**5-10. НЯМІГА І МЕНСК: Гутарка №3 (10).** — 16.01.1976. — 2 с.

**5-11. СУЩЕСТВИТЕЛЬНОЕ: Гутарка №4 (11).** — 23.01.1976. — 5 с.

**5-13. З ЧЫМ ІДЗЁМ ДА З'ЕЗДУ: Гутарка №6 (13).** — 6.02.1976. — 2 с.

**5-14. КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ: Гутарка №7 (14).** — 13.02.1976. —2 с.

**5-15. МСЦІСЛАЎ НЕ АДНАГО СЦІСНУЎ: Гутарка №8 (15).** —20.02.1976. — 2 с.

**5-16. ПРАДКАЗАННІ, ЯКІЯ СБЫЛІСЯ: Гутарка №9 (16).** — 27.02.1976. — 3 с.

**5-17. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ — ВОЧЫ НАРОДУ: Гутарка №10 (17).** —5.03.1976. — 1 с.

**5-18. ПРА ЗМЕСТ І ФОРМУ: Гутарка №11.** — 12.03.1976. — 1 с.

**5-19. ЦІ СТРАШНАЯ НАМ КУЛЬТУРА?: Гутарка №12.** — 19.03.1976. — 3 с.

**5-20. НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ІНТАРЭСЫ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ: Гутарка №13 (20).** — 26.03.1976. — 2 с.

**5-21. ЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯ, ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯ І ДЭМАКРАТЫЯ: Гутарка №15 (22).** — 9.04.1976. — 2 с.

**5-22. ЗНОЎ ЦЯЖАР: Гутарка №16 (22).** — 16.04.11976. — 4 с.

**5-25. СКАРГІ: Гутарка №18 (25).** — 30.04.1976. — 4 с.

**5-27. ЧАМУ НЯМА ПАРАДКУ: Гутарка №20 (27).** — 14.04.1976. —1 с.

**5-28. ЦЯЖКАСЦІ І ПЕРСПЕКТЫВА: Гутарка №21 (28).** — 1.05.1976. — 1 с

**5-31. РАНЕЙ ПАН, ЦЯПЕР ПЛАН: Гутарка №24 (31).** — 2.06.1976. — 11 с.

**5-32. ПРА ІДЗАЛАГІЧНАЕ СУІСНАВАННЕ: Гутарка №25 (32).** —18.06.11976. — 2 с.

**5-35. ПРА МОВУ І КАЎБАСУ: Гутарка №28 (35).** — 9.07.1976. —2 с.

**5-37. ЧУЖАЗЕМЕЦ: Гутарка №30 (37).** — 23.07.1976. — 4 с.

**5-39. САМАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ: Гутарка №32 (39).** — 6.08.1976. —2 с.

**5-45. ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАЭТА: Гутарка №38 (45).** — 17.11.1976. — 2 с.

**6. КАНТРОЛЬ: БЮЛЕТЭНЬ ТАВАРЫСТВА МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ "ТУТЭЙШЫЯ" // [А.БЯЛЯЦКІ і С.ДУБАВЕЦ]** — [МЕНСК] — 1988-1989. — 8' — 6-8 с. — [1000 асоб.] — (машынапіс + ксэра)

1988: 1; 1989: 1 (2)

Бюлетэнь Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя"" выходзіў у 1988-89 г. спачатку асобнымі выпускамі, потым — на старонках "Студэнцкай думкі". Выйшла чатыры выпускі (№№1, 2 — асобныя, №№4, 5 — у складзе "Студэнцкай думкі"). Мова выданьня — беларуская, правапіс — дарэформенны. №1 і 2 былі выдадзеныя А.Бяляцкім пры дапамозе С.Дубаўца; астатнія — С.Дубаўцом. Пэрыядычнасьць ня ўказаная.

Спосаб рэпрадукаваньня — машынапіс з ксэрапамнажэньнем. Зьмяшчаліся матэрыялы палітычнага, літаратурнага і філялягічнага характару, зьвязаныя ў большай ці меншай ступені зь дзейнасьцю Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя".

**7. ЛЮСТРА ДЗЁН: Беларуская талеранцыйная грамада.** —1979-1980.

1979-1980: №1-3.

**8. МІЛАВІЦА.** — Менск — 1974-1976.

1974-1976. — №1-7.

Самвыдавецкі часопіс "Мілавіца" выпускаўся на гістарычным факультэце БДУ. Асноўныя выдаўцы: У.Арлоў, Г.Кулажанка, І.Чарняўскі. Выйшла 7 нумароў. Пад ціскам КГБ і камсамольска-палітычных органаў выданьне спыніла сваё існаваньне. *У фондах Архіва адсутнічае.*

**9. НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТА ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ": ВЫДАНЬНЕ АРГКАМІТЭТУ.** — 1988, сьнежань. —№1. — 8' — 6 с.

1988: 1, 2; 1989: 1 (3) - 15; 1990: 1-5.

Выдаваліся са сьнежня 1988 г. Прадвесьнікам "Навінаў" зьявілася "Інфармацыйнае паведамленьне БНФ за перабудову "Адраджэньне". Першыя нумары рыхтавалі А.Суша і А.Радкевіч; у падрыхтоўцы паасобных нумароў удзельнічалі: П.Ларын, І.Дрозд, П.Пячонка, А.Сёмуха; ад №7 у складзе выдавецкае групы: А.Суша, С,Дубавец, П.Жук.

**9-0. ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТА ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ": ВЫДАНЬНЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТА ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ".** — без выходных зьвестак. — 8' — 2 с.

У нумары: Адозва АК БНФ "Адраджэньне" да грамадзянаў Беларусі; рэкамэндацыі па стварэньні груп падтрымкі БНФ.

**10. СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА // Падзагаловак зьмяняўся.** — 1988 (год першы) — №1, лістапад-сьнежань. — 16' — 8 с., іл.

1988: 1; 1989: 1-10; 1990: 1-6; 2 спэцвыпускі.

"Студэнцкая думка" — друкаваны орган сьпярша суполкі "Сьвітанак", пазьней — Згуртаваньня Беларускіх студэнтаў і Задзіночаньня Беларускіх студэнтаў. Розныя нумары рахтавалі: А.Гуркоў, Г.Аніськова, Г.Барвёнава, С.Сотнікаў, А.Сабаленка, І.Міхно, І.Ліхтарня (мастак), З.Вайцяховіч.

Эмблематыка: знак суполкі "Сьвітанак" і "Пагоня". Лёзунг адсутнічае. Мова — беларуская, правапіс — дарэформенны. Рэдакцыя ня ўказвалася. Выдавалася нерэгулярна; аб'ём нясталы; наклад указаны не на ўсіх нумарах; дэкляраваны наклад вагаецца ад 999 асобнікаў у №6 за 1990 да 5.000 у №№2-3 таго ж года. Цана ня ўказвалася.

# РАЗМОВА З ЧЫТАЧАМІ

Працяг. Пачатак на стар. 3

*Л.Баршчэўскі: «Спачатку было рашэньне...» (8)*
*Н.Стужынская. Атаман Дзяргач (7)*
*А.Дзярновіч. Вандроўная ідэя (6-2)*
*Як гартавалася сталь (5-5)*
*С.Харэўскі. Радзіма Дзюрэра (5-3)*

Цікава назіраць за гэтымі характарыстыкамі «найлепшых матэрыялаў»: ёсьць тэксты, якія прымаюцца адназначна, а ёсьць такія, што абуджаюць спрэчку. Ёсьць, праўда, і такія, што адназначна не прымаюцца — як, напрыклад, артыкул Стывэна Чэпмэна з амэрыканскага часопіса Spectator «Панаваньне брунэтак», які ажно 34 карэспандэнты назвалі найгоршым матэрыялам нумару.

## Што Вас цікавіць?

Чытачоў «НН» цікавіць абсалютна ўсё, але і тут вымалёўваецца свая ерархія. Для тых, хто робіць газэту, гэта своеасаблівае кіраўніцтва да дзеяньня. Трэба за статыстыкай убачыць тэндэнцыю да выхаду на шырэйшага чытача.

І тут мы сустракаемся з галоўным фэномэнам нашае анкеты. Ёсьць адна АБСАЛЮТНАЯ ТЭМА, якая цікавіць нашых чытачоў, незалежна ад узросту, прафэсіі ці месца жыхарства. Гэта ГІСТОРЫЯ. Яе хочуць бачыць у «НН» 99 карэспандэнтаў. Гістарычныя артыкулы і эсэ, параўнаньні з сучаснасьцю, гісторыя ВКЛ і Беларусі, раней невядомая гісторыя, архіў...

На другім месцы — ЛІТАРАТУРА (85): вершы, дзёньнікі, проза, эсэ, літаратурнае і мастацкае жыцьцё.

Трэцяя цікавасьць — ПАЛІТЫКА (76): палітычны камэнтар, грамадзкія тэндэнцыі, тайны з жыцьця сучасных палітыкаў, расповед пра партыі...

КУЛЬТУРА (39) — культуралёгія і культурнае жыцьцё —апынулася на чацьвертым месцы. Далей — ІНФАРМАЦЫЯ (24), МІЖНАРОДНЫ аналіз (32), БЕЛАРУШЧЫНА (30)... Словам, усё тое, чым мы і імкнемся напаўняць старонкі «НН». Самыя адмыслова сфармуляваныя тэмы: «нацыяналістыка», «нерасейскі погляд на падзеі», «беларусы падараваных земляў»...

Многае з гэтага нашыя карэспандэнты назавуць яшчэ раз у сваіх пажаданьнях газэце. А пакуль мы атрымліваем чарговы партрэт нашага чытача, ягоных жаданьняў. Абсалютная цікавасьць да гісторыі сьведчыць пра тое, што пэўны «бум» гістарычнай літаратуры мінулых гадоў зусім не наталіў прагу сучасьніка ведаць мінуўшчыну. Прыйшло новае пакаленьне, фармуецца ягоная гістарычная сьведамасьць, зноў у грамадзтве стаіць дылема афіцыёзнай хлусьні і незалежнай праўды пра гісторыю, зноў наглуха зачыненыя архівы КГБ у Менску, зноў перапісваюцца падручнікі... Вось чаму пры наяўнасьці некалькіх неблагіх гістарычных часопісаў чытач патрабуе і ад «НН» — гісторыі, гісторыі ў фармаце папулярнага тыднёвіка.

Дарэчы, што яшчэ чытаюць чытачы «НН»? У якое інфармацыйнае поле мы ўваходзім?

## Інфармацыйнае поле

Адказ на гэтае пытаньне вынікае з тэматыкі, якой цікавяцца нашыя карэспандэнты. Гэта гістарычныя, культуралягічныя або літаратурныя часопісы «Спадчына» (56), «Крыніца» (38), «Беларуская мінуўшчына» (32), «Беларускі гістарычны часопіс» (15), «Полымя» (12), «Мастацтва» (6), «Маладосць» (6), «Беларускі гістарычны агляд» (5), «Першацвет» (5) і «Роднае слова» (4).

У сьпісе газэт пераважаюць палітычныя выданьні, на першым месцы сярод якіх — «Свабода» (201). Можна меркаваць, што аўдыторыя «НН» амаль цалкам «накладаецца» на аўдыторыю «Свабоды». Нехта з карэспандэнтаў нават назваў лепшым аўтарам «Нашай Нівы» Ігара Герменчука, галоўнага рэдактара «Свабоды», які ў «НН» ніколі не друкаваўся. Наступны наш «газэтны рэйтынг» выглядае так:

*Народная воля (85)*
*Пагоня (55)*
*ЛіМ (43)*
*Имя (43)*
*Наша слова (36)*
*БДГ (27)*
*Известия (25)*
*Звязда (24)*
*Беларуская маладзёжная (19)*
*Свободные новости+ (14)*
*Пресс-болл (14)*
*Культура (11, у т.л. ЗНО — 4)*
*Фемида (9)*
*Белорусская газета (7)*
*АиФ (6)*
*Круг (6)*
*Белорусский рынок (5)*
*Здравый смысл (5)*
*Комсомольская правда (5)*
*Народная газета (4)*
*Głos z-nad Niemna (3)*

Радзей называюцца наступныя газэты і часопісы: Родина, Бизнес-Балтия, Minsk Economic News (2), Playboy, Свабодныя прафсаюзы (2), Общая газета (2), На страже (2), Частная собственность, Иностранная л-ра, Царкоўнае слова, Гастроном, Вясёлка (3), Ніва, Калосьсе, Нёман, 7 дней, Из рук в руки, Чырвоная змена (2), Вожык, Вечерний Минск (2), Cosmopolitan, Футбол (2), Навіны АН Беларусі, Дело, Архітэктура і будаўніцтва, Polityka, Рэгіянальная газэта, Беларусь, Бярозка (2), Раніца (2)...

## Узаемадачыненьні з «НН»

Большасьць карэсрандэнтаў называюць гэтыя ўзаемадачыненьні сыстэматычнымі (194). Упершыню яны пабачылі «НН» у кіёску (84) і ў распаўсюднікаў (24) альбо даведаліся пра існаваньне тыднёвіка ад знаёмых, калегаў, сваякоў (57) ці з газэтных матэрыялаў пра «НН» (54).

Палова карэспандэнтаў (116) кожны нумар атрымлівае праз індывідуальную падпіску, а палова (102+18) набывае ў кіёску або ў прыватных распаўсюднікаў. У бібліятэцы чытае адзін! Дарэчы, на самоце свой нумар чытаюць толькі 52 анкетаваныя. У 71 выпадку адну газэту чытаюць два чалавекі, у 52-х выпадках — тры, у 47-мі — чатыры і болей.

Частка карэспандэнтаў (98) прачытвае нумар за 1-3 гадзіны, а частка (60) — за 1-3 дні. За 30 хвілінаў прачытваюць 16, а 22 чытаюць тыдзень. 117 карэспандэнтаў лічаць, што аптымальны кошт нумару — 3 тыс. рублёў, 81 называе суму 5 тысяч і толькі 15 гатовыя плаціць 7 тысяч рублёў.

Апошняе пытаньне зусім не факультатыўнае — яно наўпрост зьвязанае зь якасьцю тэкстаў і друку, а нават і з той тэматыкай, якую шукаюць у тыднёвіку чытачы. Не сакрэт, што сёньня «НН» — стратнае прадпрыемства. Пазыкі і гранты, як правіла выпадковыя, пакуль дазваляюць нам трымацца «на вадзе». Зь іншага боку, мы разумеем, што далёка ня кожны наш чытач здольны аплочваць рэальны кошт такой газэты, якую ён хоча і, цалкам верагодна, заслугоўвае. Як ні круці, а наша бугальтэрыя — агульная з Вамі, таму мы і лічым патрэбным знаёміць Вас з фінансавымі справамі «НН».

На момант публікацыі анкеты рэальны сабекошт тыднёвіка складаў 5 тысяч рублёў, а сёньня ён ужо падбіраецца да сямі тысяч. Зусім слушная заўвага многіх карэспандэнтаў пра тое, што нумар праз падпіску мусіць каштаваць таньней за нумар праз розьніцу. Аднак гэта не выключае падаражаньня і першага і другога, што непазьбежна вынікае з інфляцыі.

З размовы пра грошы вельмі выгодна перайсьці да размовы пра недахопы. Хоць адна наша чытачка і напісала нам: «Ведайце, калі я перастану



чытаць «НН», гэта адбудзецца зусім не таму, што газэта стала каштаваць болей»...

## Недахопы

Увогуле, прывесьці да статыстычнага выгляду тыя дзясяткі «найвялікшых недахопаў» тыднёвіка, якія называюць нашыя карэспандэнты, немагчыма. Тое, што ў нас «малы наклад» (12) і «недахоп чытачоў» (2), «недастатковы аб'ём» (14) і «малы фармат» (2), «дрэнная тэхнічная якасьць» (7) і «адсутнасьць колеру», — наўпрост вынікае з таго, што «няма раскруткі» і «мала рэклямы газэты» (8), што, у сваю чаргу, выклікана тым, што «грошай не хапае» (2). Гэта, так бы мовіць, недахопы аб'ектыўныя.

Ёсьць і агульна-канцэптуальныя. Нам цяжка пагадзіцца зь «нявызначанасьцю мэтаў» і «імкненьнем дагадзіць усім». Што да «невыразнай канцэпцыі», то ёй, новай канцэпцыі, толькі год і ацэньваць яе, бадай, рана. «Імкненьне да масавасьці» цяжка прызнаць за недахоп тыднёвіка, тым больш што ў іншых анкетах нам закідаюцца «гермэтызм», «элітарнасьць» (4) і нават «нарцысізм».

Сапраўды паважныя заўвагі, якія сустракаюцца не аднойчы і якія варта прыняць да ведама — ужо згаданы «брак аптымізму», «страта непадобнасьці на ўсе саўковыя газэты», «невыразная структура тэмаў», «пэўная эклектычнасьць». Вельмі чалавечая парада: «ня злуйцеся».

Наступны блёк «найвялікшых недахопаў» — тэматычны. Тут, бадай, з усім можна пагадзіцца. Якой інфармацыі бракуе на старонках «НН»? Гістарычнай, палітычнай, навінаў, пра вядомых людзей, музычнай, пра замежжа і беларусаў за межамі РБ, бракуе гумару, спорту, эротыкі, дзіцячай старонкі, рэгіянальнай і рэлігійнай інфармацыі, крыжаслова... Словам, наш сукупны чытач прагне ўсяго.

Зусім слушныя заўвагі пра «складаны стыль, цяжкую мову» некаторых матэрыялаў і аўтараў. А вось заўвагі аб правапісе: «трэба друкаваць на сёньняшняй беларускай мове», бо, маўляў, людзі і такую яе ня ведаюць, — мы прыняць ня можам. На нашу думку, таму й ня ведаюць, што карыстаюцца сурагатам правапісу, створаным у свой час выключна дзеля палітычных мэтаў. Між іншым, побач з гэтай заўвагай сустракаюцца і пратэсты супраць «маскалізмаў» у мове «НН» і патрабаваньні друкаваць лацінкай. Цалкам трэба пагадзіцца хіба з тым, што мы мала пішам пра мову і тое, што зь ёю адбываецца сёньня.

## Інфарматар «НН»

«Інфарматар» завялікі — лічаць сямёра карэспандэнтаў. А мы думаем не пра скарачэньне адной з частак «НН», а пра пашырэньне як асноўнага сшытка, так і «Інфарматара». Як паказваюць ягоныя ацэнкі, дадзеныя ў анкетах, «Інфарматар» не задавальняе хутчэй якасьцю падрыхтоўкі тэкстаў, а не тэматыкай, дарэчы, — далёка недастатковай.

Вось як выглядае рэйтынг ранейшых матэрыялаў «Інфарматара», якія запомніліся нашым карэспандэнтам: «Грамафон. Старонка вершаванага радка» (17), «Бібліятэка» (15), спажывецкія і псыхалягічныя тэсты (14), «Друкарня ў кожнай кватэры» (13), «Калі Вы прыйшлі на несанкцыяваны мітынг» (9), «Як набыць аўтамабіль у Нямеччыне» (9), «Спажывец» (9), «Адукацыя» (7), «Беларуска-індзейскае таварыства» (6)...

Крыху радзей называюцца яшчэ каля пяцідзесяці розных матэрыялаў, што чарговы раз сьведчыць пра разнастайныя зацікаўленьні чытачоў. Некаму запомніліся ўрокі прэфэрансу, некаму — падарожжа ў Жэнэву, хтосьці зацікавіўся тым, «як стаці геніем», а хтосьці — як лячыць раны, атрыманыя ў часе забароненай дэманстрацыі; нехта з захапленьнем чытае прыватныя абвесткі, а нехта адкрыў для сябе «Абавязкі правадніка»...

А вось кароткі рэйтынг матэрыялаў «Інфарматара» ў тым нумары, у якім друкавалася анкета:

«Сацыялёгія» (38), «Грамафон» (36), «Як купляць абутак» (28), «Каб кватэра была цёплай» (19), «Калі я памяняю батарэйкі» (13), «Пра цяжкое жыцьцё і лёгкую сьмерць» (17), псыхалягічны тэст (10).

Далейшы сьпіс мы пакідаем да ведама рэдакцыі. Гэтаксама як і адказы на пытаньне «Якія тэмы, рубрыкі, на Вашу думку, павінны быць у Інфарматары «НН»?» Будзем лічыць, што Ваш сукупны адказ — гэта наш набытак і, у пэўным сэнсе, камэрцыйная тайна.

А вось адказ на пытаньне пра тое, «Якіх тэмаў і рубрык у Інфарматары можа ня быць?» — мы апублікуем.

Першае месца ў адмоўным сьпісе займае «Кіно-Менск» (23), што ўскосна пацьвярджае думку: нас чытаюць ня толькі ў сталіцы. Далей ідзе тэлепраграма (20) — маўляў, яе й так друкуюць усе газэты, а мы толькі займаем карысную плошчу. На трэцім месцы — відэа (16). Нехта ўдакладніў — «ТАКОЕ відэа». Далей —спорт (11), «Адпачынак» і «Грамафон» (па 10), па 9 карэспандэнтаў — супраць раскладу радыёперадач і тэстаў, 8 —супраць «Біржы працы», па 6 — супраць шахматаў, раскладаў руху транспарту, рынку, гульняў і забавак...

Магчыма, зь нечым тут і варта пагадзіцца. Хоць нашая выснова застаецца ранейшай — справа не ў тэматыцы, а ў якасьці адбору і падрыхтоўкі тэкстаў, у павелічэньні аб'ёму ўсёй газэты і — у Вашым актыўным удзеле.

Тое, што ў анкетаваньні «НН» узяло ўдзел нямала чытачоў (амаль 5%), сьведчыць пра Вашу актыўнасьць. І вось напрыканцы гэтай «Размовы з чытачамі» мы згадваем, што ў многіх анкетах Вы прапануеце нам друкаваць болей чытацкіх лістоў, болей інфармацыі з рэгіёнаў. Сустрэчная прапанова — запоўніўшы нашу анкету, не адкладайце асадку, пішыце нам — пра сябе, пра сваё жыцьцё. Пішыце таксама і пра нас.

Умбэрта Эка

# Пратаколы, якіх не было

*З кнігі «Шэсьць шпацыраў па апавядальных лясах. Гарвардзкі ўнівэрсытэт, нортанаўскія лекцыі».*

Сю. На старонках «Вечнага жыда» ён стварыў вобраз мэсье Радэна, увасабленьне эзуіцкай кансьпірацыі, копію Невядомых Уладароў, але ўжо клерыкальнага парадку.

Пасьля публікацыі раманаў Сю ў 1864 годзе нейкі Марыс Жалі напісаў лібэральны памфлет супраць Напалеона III, пэрсанажам якога быў Мак'явэлі, сымбаль дыктатарскага цынізму. Мак'явэлі ў творы вёў гутарку з Мантэск'ё. Жалі прыпісваў Напалеону ўдзел у апісанай Сю эзуіцкай змове (і таксама адданасьць прынцыпу, згодна зь якім мэта апраўдвае сродкі). Сем бачынаў з опусу Жалі — гэта калі не чысты плягіят, дык, прынамсі, падрабязнае цытаваньне раману Сю без аніякіх спасылак. Жалі быў арыштаваны, правёў год і тры месяцы ў вязьніцы і ўрэшце скончыў жыцьцё самагубствам. Мір ягонаму праху, і неўзабаве мы зноў сустрэнемся зь ім.

У 1868 годзе нямецкі паштовы чыноўнік Герман Гедшэ, аўтар некалькіх хлусьлівых кніжонак, пад псэўданімам «сэр John Retcliffe» напісаў «народны» раман «Біярыц», у аснове якога ляжыць апісаньне акультнай цырымоніі на могілках Прагі. Гедшэ проста скапіяваў з кнігі Дзюма «Жазэф Бом», напісанай у 1849 годзе, сцэну, дзе апісваецца сустрэча Кальёстра, кіраўніка Невядомых Уладароў, зь іншымі ілюмінатамі, на якой плянуецца справа Караляў Каралевы.

Пэрсанажамі Гедшэ ўжо выступаюць не Кальёстра энд Со., а пасланцы дванаццаці плямёнаў Ізраілю, якія сабраліся, каб падрыхтаваць заваёну сьвету, як наўпрост, без усялякіх якіх, дэкляруе Вялікі рабін.

Праз пяць гадоў гэтую гісторыю падхоплівае расейская кніжонка «Жыды, гаспадары сьвету», але ўжо ў форме кронікі сапраўдных падзеяў.

Такую ж гісторыю ў 1881 годзе передрукоўвае французская газэта «Кангампарэн», суправаджаючы яе заўвагай пра тое, што гэтая інфармацыя была атрыманая з надзейнай крыніцы, ад ангельскага сэра John-а Readcliff-а.

У 1896 годзе Франсуа Бурнан зноў спасылаецца на прамову Вялікага рабіна (але гэтым разам ужо галоўнага рабіна завуць John Readcliff) у сваёй кнізе «Нашыя сучасьнікі жыды». З гэтага моманту прыдуманае Дзюма масонская зборня, паблытаная з прыдуманым Сю плянам езуітаў, прыпісаная спадаром Жалі Напалеону III, ператвараецца ў сапраўдную прамову Вялікага рабіна і ў розных формах трапляе ў розныя кнігі.

Але на гэтым гісторыя не канчаецца. На сцэне зьяўляецца пэрсанаж зусім не раманны, які, аднак, заслугоўвае на тое, каб стаць раманным. Расеец Пётар Іванавіч Рахоўскі, які меў праблемы з царскай паліцыяй, бо яго вінавацілі ў сувязях з крайнімі левымі рэвалюцыйнымі групоўкамі, пазьней стаў інфарматарам паліцыі, блізка сышоўся з чарнасоценцамі і ўрэшце стаўся кіраўніком жахлівай ахранкі.

Дык вось, Рахоўскі, каб дапамагчы свайму патрону, графу Вітэ, з крытыкай якога выступаў ягоны палітычны апанэнт Ільля Цыон, загадаў правесьціператрус у доме Цыона і знайшоў рукапіс памфлету, у якім Цыон перакладае тэкст Жалі, але ідэі Мак'явэлі прыпісвае не Напалеону III, а Вітэ. Рахоўскі, як і ўсе чарнасоценцы, быў старашэнны антысэміт. Вось жа, у яго нарадзіўся плян узяць гэты тэкст, сьцерці ўсе згадкі пра Вітэ і прыпісаць зьмешчаныя там думкі жыдам. Імя Цыон, асабліва калі вымавіць яго на французскі манер «Сыён», гучэла шматзначна; здавалася, што ўсё будзе мець больш праўдападобны выгляд, калі прыпісаць раскрыльцё габрайскай змовы габраю.

Адрэдагаваны Рахоўскім тэкст, пэўна, і стаў асноўнай крыніцаю «Пратаколаў сыёнскіх мудрацоў». Літаратурныя карані гэтых пратаколаў несумненныя. Дзе яшчэ, апрача раману Сю, «кепскія» могуць распавядаць пра свае падступныя пляны настолькі адкрыта і бессаромна. Бо ж мудрацы сьціпла заяўляюць, што іхныя «амбіцыі ня ведаюць межаў, прагнасьць — спатолі, жаданьне помсты бязьлітаснае, а нянавісьць велізарная». Але, як і ў «Гамлеце» паводле Эліёта, разнастайнасьць літаратурных крыніцаў робіць сам тэкст дастаткова супярэчлівым.

Мудрацы хочуць скасаваць свабоду друку, але імкнуцца спрыяць вальнадумству; крытыкуючы лібэралізм у эканоміцы, яны падтрымліваюць ідэю транснацыянальных кампаніяў; зь нецярпеньнем чакаюць рэвалюцыяў у кожнай краіне і, каб падштурхнуць народ да бунту, паглыбляюць сацыяльную няроўнасьць. Яны хочуць пабудаваць мэтро, каб замінаваць вялікія гарады. Паводле іхных словаў, мэта апраўдвае сродкі, і таму іх цешыць антысэмітызм, які дазваляе ім трымаць у падпарадкаваньні бяднейшых габраяў і адначасова расчульваць гояў карцінамі габрайскай трагедыі. Яны хочуць адмяніць вывучэньне клясычных аўтараў і антычнай гісторыі і спрыяць разьвіццю спорту і сродкаў візуальнай камунікацыі, каб атупляць працоўныя масы, і г.д.

Шмат хто заўважаў, што «Пратаколы», відаць, нарадзіліся ў Францыі XIX ст., бо ў іх поўна рэаліяў французскага грамадзтва тагачаснай эпохі (скандал вакол Панамскага каналу, чуткі пра габрайскіх акцыянэраў парыскага мэтрапалітэну). Няцяжка знайсьці ў «Пратаколах» і матывы са шматлікіх вядомых «народных» раманаў. На жаль, твор, як і многія іншыя, быў настолькі пераканаўчым, што яго лёгка можна было зблытаць з праўдай.

Працягам гэтай літаратурнай гісторыі была Гісторыя зь вялікай літары. Вандроўны расейскі манах Сяргей Нілус — паўінтрыган, паўпрарок — апублікаваў тэкст «Пратаколаў» са сваімі камэнтарамі. Такім чынам ён хацеў паспрыяць рэалізацыі ўласных распуцінскіх амбіцыяў (яму карцела стаць духоўнікам цара). Пасьля тэкст стаў блукаць па Эўропе, пакуль ня трапіў у рукі Гітлера... Зьмест наступных сэрыяў вядомы ўсім.

*Six Walks in the Fictional Woods, Harvard University, Norton Lectures, 1992-1993*

**ПЕРАКЛАД З АНГЕЛЬСКАЙ Андрэя Дынько**

*Поўны тэкст гарвардзкіх лекцыяў «Затрымацца ў лесе» і «Магчымыя лясы» будзе надрукаваны ў другім нумары сярэднеэўрапейскага агляду «Фрагмэнты».*

Адам Глёбус

# Танка

♥

Побач зь люстэркам
гартаў альбом сямейны,
непазнавальным
робіцца ўсё на сьвеце
і нават сам ты... Вось як.

♥

Прыродазнаўства
вывучалася ў школе.
Стары падручнік
сустрэўся выпадкова
на пыльных антрэсолях.



♥

У дзень сьпякотны,
седзячы пад платанам
на мулкай лаўцы,
я ня ведаю, колькі
на плямку крыві гляджу.

♥

Эратычны сон
зь ярка-белым чэрапам
манэкеншчыцы...
Раптам, прачынаюся
сярод халоднай ночы.



♥

Хлопчык ля вады.
Каменьчык перакінуць
хочацца яму
за срэбна-шэры далягляд,
на другі бераг мора.

♥

Лапкі ядлоўца
і пралескі на стале
ў шклянцы з вадою.
Хто прынёс іх да мяне?
Хто пакінуў кветкі тут?

# Ён працуе, карыстайся гэтым

*Развагі пісьменьніка XXI ст.*

ня сваіх літаратурных твораў я выкарыстоўваю камбінацыю старога і новага мэтадаў, што дае мне ўсё, чаго я жадаю. Чалавечыя істоты, урэшце, — гэта жывыя арганізмы (хоць я ня ўпэўнены, ці можна так сказаць пра ўсіх нас), і праз некаторы час мы стамляемся ад аднастайнай нязьменнай працы. Жаданьне разнастайнасьці ня ёсьць заганнаю рысай характару. Калі я стамляюся ад клявіятуры ды экрана манітора, я магу перайсьці да асадкі й паперы. А пасьля зноў вярнуцца да кампутара. Мне падабаецца такое чаргаваньне. Я адчуваю, што мяне гэта асьвяжае. Жывым арганізмам падабаецца асьвяжацца.

Ну, скажаце вы, паколькі незьлічоная колькасьць іншых пісьменьнікаў несумненна выкарыстоўвае тэкставыя працэсары гэткім самым чынам, чаго я ўвогуле пачаў варушыць гэтае простае пытаньне? А таму, што нагэтулькі распаўсюджанае выкарыстаньне для пісьменьніцтва кампутараў (якіх развялося, як граў) патроху рухае нас у будучыню, не выплёскваючы разам з вадою й дзіця. Выглядае на тое, што захоўваецца баланс, заснаваны на здаровым сэнсе, існуе памяркоўная адкрытасьць да усеагульнага абмеркаваньня лічбавай тэхналёгіі ў цэлым і яе ўзьдзеяньня на людзей і грамадзтва. У адрозьненьне ад тэорыі сьвятарнай вайны.

Я пішу прозу на кампутары ўжо амаль 15 гадоў, і палову гэтага часу я падключаны да электронных сетак. Напэўна, я адзін з першых пісьменьнікаў у Амэрыцы, які публікуецца «онлайн» (у наўпроставым падключэньні да кампутарнай сеткі тыпу Internet — У.Б.), і на сёньняшні дзень, наколькі мне вядома, я адзіны празаік, які робіць літаратурныя нататкі ў выглядзе кампутарных базаў зьвестак. Прычым гэтым я заняўся ня дзеля таго, каб быць «першым», а таму, што гэта мае сэнс. Я дагэтуль не магу зразумець большасьці іншых пісьменьнікаў, якія разглядаюць свае кампутары выключна як электронныя друкавальныя машынкі.

Я ўжо даўна быў на фронце, але толькі нядаўна я патрапіў у сапраўдную зону баявых дзеяньняў. Перад тым, як напісаць гэтае эсэ, я паўтара года разам з сваёю жонкай Кэйт Бэрнгарт займаўся падрыхтоўкай камэрцыйнага кампакт-дыска з сваімі творамі. Часткова я рабіў гэта дзеля задавальненьня даўняга інтарэсу да мяне, а часткова, каб зарабіць на жыцьцё. Гэта было ўсё адно як глыбокае занурэньне ў лічбавы сьвет — глыбейшае, чым я калі-небудзь мог сабе ўявіць. У свой час нас папрасілі выпрацаваць да 1995 г. стандарт на літаратурную мульцімэдыяпрадукцыю, і, мяркую, у нас гэта атрымалася, ці, прынамсі, выйшла нешта блізкае да таго.

Ніхто сабе нават і ўявіць ня можа таго, дзе будзе выкарыстоўвацца лічбавая тэхналёгія да канца гэтага стагодзьдзя. Гэта цудоўна ілюструе параўнальна нядаўні выбух World Wide Web (г.зн. «сусьветнае павучыньне» — апошняе пакаленьне вузлоў Інтэрнэту, што дае магчымасьць прагляду і загрузкі тэкстаў, графічнай і гукавай інфармацыі — У.Б.), які дазваляе выконваць усе каманды простым пстрычком «мышы» на старым Інтэрнэце, якім мы карысталіся цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў.

І хоць мы здольныя бачыць толькі агульныя рысы таго, чаго можна чакаць, я магу прадказаць, што самыя зацятыя скептыкі неўзабаве будуць зацята хаваць сваё захапленьне і сваё жаданьне працаваць з цудоўнымі тэхналёгіямі, якія ўжо на падыходзе. Калі мы па-сапраўднаму дбаем пра нашую сувязь зь мінуўшчынай, мы мусім вітаць магчымасьць лічбавай падачы інфармацыі. Гэта азначае, што ў нас будзе шырэйшы і больш рацыянальны доступ да гістарычных матэрыялаў, чым гэта было ці, магчыма, было б пры іншых спосабах. Калі мы сапраўды хочам цалкам быць людзьмі разумнымі, то кампутарныя тэхналёгіі прапануюць нам надзвычайную сілу, каб выканаць нейкую працу і падзяліцца ёю з усім чалавецтвам. Зьяўляецца беспрэцэдэнтная магчымасьць супрацоўнічаць зь іншымі людзьмі на плянэце замест таго, каб зь імі ваяваць.

Мала хто з крытыкаў лічбавых тэхналёгіяў крытыкаваў іх у слушным духу і з слушнай нагоды. Але калі яны гавораць, што «інфармацыі», незалежна ад яе колькасьці, недастаткова, яны мовяць рацыю. Калі нам патрэбная паэзія — уся нашая традыцыйная паэзія ў тэкстах, выявах і музыцы, таксама, як і новая паэзія, — то ад сёньня і надалей мы маем для гэтага нябачаныя дагэтуль сродкі яе стварэньня і перадачы. У будучыні мы ўбачым новага («new media») Фэліні. Зьявіцца і лічбавы Кафка.

Дрэнная навіна ў тым, што заснаваныя на кампутарах тэхналёгіі ды інфармацыйныя сыстэмы (усё адно, як гусіныя пёры і друкавальныя машынкі, што былі перад імі) ня могуць самі па сабе даць паэзію. З аднаго боку гэта дрэнная навіна, а з другага — добрая навіна. Машыны ня здольныя зьнішчыць паэзію. Гэта можам зрабіць толькі мы самі.

На заканчэньне я хацеў бы сказаць, што ўсё залежыць ад вашых адносінаў, вашай мэнтальнасьці — гэтых нябачных, магутных рухавікоў. Вы самі выбіраеце свой погляд на рэчы, на тое, якія аспэкты вашай сьвядомасьці вы хочаце даверыць электроннай тэхналёгіі. Некаторыя баяцца, што яна заб'е паэзію жыцьця — праявы духу, Бога. Як для мяне, то гэта толькі яшчэ адна з праяваў. Свэн Біркерц (традыцыйны «нялічбавы» паэт у адрозьненьне ад мульцімэдыйных, «надрукаваных» на кампакт-дысках — У.Б.) завяршае свае «Гутэнбэргавыя Элегіі» словамі «Адкінь гэта!». Я кажу «Карыстайся гэтым!», але пры гэтым я дадаю, што ён і я застаемся, тым ня менш, сябрамі.

Усё залежыць ад духу.

**ПАДРЫХТАВАЎ Уладзімер Бараніч**

*Ральф Ламбрэглія - аўтар двух зборнікаў апавесьцяў: «Людзі пад вадою» (Men Under Water (Washington Square Press, 1991)) і «Зрабі, каб я працаваў» (Make Me Work (Penguin, 1995)). Стала публікуе апавяданьні ў часопісах The Atlantic Monthly і The New Yorker. Ягоная проза таксама зьяўлялася ў многіх анталёгіях, такіх, як «The Best American Short Stories 1987 & 1988», «The Vintage Book of Contemporary American Short Stories», «American Stories II: Fiction from The Atlantic Monthly» і «Prize Stories 1996: The O. Henry Awards». Жыве ў прадмесьці Бостану з жонкай і дачкой.*



